



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Духавенства разам →3


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3007) Год LVIII | Беласток, 29 снежня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Пра сны беларускай інтэлігенцыі і люд, які не даверае нікому

**Разам з адыходам Народнай Польшчы змяніліся ўмовы жыцця нацыянальных меншасцей, у тым ліку і беларусаў. Большасць „нашых” сумавала па адкінутай палякамі „народнай уладзе” і трывожна чакала паслядоўнасцей палітычных пераўтварэнняў пры канцы 1980-х гадоў. Масава падтрымлівала партыі, якія асацыяваліся з традыцыяй і спадчынай ПНР. Знакамітая меншасць беларусаў Беласточчыны, асабліва маладая інтэлігенцыя, падтрымлівала наступаючыя змены і атаясамлівалася з лозунгамі пра дэмакратызацыю, за якімі ішло спадзяванне на адраджэнне нацыянальнай мовы і культуры ў публічнай прасторы, пашану нацыянальнай годнасці, нармальнае жыццё без тайнай паліцыі і цэнзуры. Маладыя і наіўныя людзі паверылі нават, што ў дэмакратычнай краіне магчымым будзе стварэнне такога ладу жыцця беларусам, які стане ўзорным для суседняй Беларусі. Будучыня ўсходняй Беласточчыны бачылася з дэмакратычным самаўрадавым кіраваннем, інвестыцыямі ў перапрацоўку мясцовай сыравіны, турызм і інфраструктуру, з беларускімі школамі і культурнымі ўстановамі.**

Перамены ў Польшчы ішлі ў напрамку чаканняў беларускай інтэлігенцыі. Энтузіязм у нашым асяроддзі быў так вялікі, што вырашылі нават стварыць Беларускі выбарчы камітэт і паставіць сваіх кандыдатаў падчас славутых выбараў у чэрвені 1989 года. Памяркоўны поспех на выбарах выклікаў патрэбу стварэння сваёй беларускай партыі. Так узнікла Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне — партыя з ліберальнай праграмай развіцця гмін усходняй Беласточчыны і пашырэння беларускасці ў публічнай прасторы. Усё было б вельмі добра, калі б яшчэ існаваў беларускі ліберальны электарат. Нават начальнікі гмін за галаву хапаліся і пыталіся: а хто вам дазволіць самастойна будаваць пякарні, крамы, малачарні, тартакі, мясакамбінаты, дзе і каму ўсё гэта прадаваць будзем? Старыя наменклатуршчыкі мелі падставы сумнявацца. Прапанова БДА стварыць гаспадарчы Саюз гмін усходняй Беласточчыны ў пачатку 1990-х гадоў выклікала сярод мясцовых „дэмакратаў” каментары і абвінавачанні беларусаў у імкненні да новага падзелу Рэчы Паспалітай. „Дэмакратычная” бяспека таксама паспяхова пачала вырашаць беларускае пытанне так, як раней рабіла гэта тайная паліцыя „народнай улады”.

Нягледзячы на абыякавасць насельніцтва ўсходняй Беласточчыны да беларускага руху пры кожных чарговых выбарах — парламенцкіх ці самаўрадавых — ствараліся беларускія выбарчыя камітэты. Ніколі не было спадзявання на паспяховы вынік, але палітычная актыўнасць напамінала пра прысутнасць беларусаў на Беласточчыне. Люд беларускі ведаў аднак сваё і галасаваў на ўсялякія іншыя палітычныя групоўкі, найчасцей спадкаемцаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Беларускае асяроддзе дзялілася, сварылася, але адначасова ствараліся новыя грамадскія арганізацыі. Фінансавая падтрымка з боку Міністэрства культуры Польшчы для ўсялякіх грамадскіх ініцыятыў прыносіла нечаканы плён у выглядзе новых форм выяўлення беларускай культуры, выданняў, часопісаў, а нават навуковай дзейнасці. У першай палове 1990-х гадоў у сапраўднасці прайшла хваля нацыянальнага адраджэння беларусаў у Польшчы. Нават у адной маленькай царкве ў Беластоку сталі маліцца на беларускай мове, а Бог не пратэставаў, што да Яго людзі звярталіся на гэтай мове. Фальшывыя прарокі ўвесь час пераконвалі беларускіх вернікаў, што іх родная мова не годная размовы з Усявышнім.

Сур'ёзная трактоўка нацыянальнай палітыкі аднак канчалася пры канцы стагоддзя. Не важнае хто быў пры ўладзе — левыя, правыя, нацыяналісты ці лібералы. Кіраўніцтва Сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцей ад палітыка найвышэйшага фармату Яцка Куранія перайшло ў рукі ігнарантаў, якія нават не скрывалі, што праблема іх зусім не цікавіць. Хутка паменшыліся сродкі на дзейнасць, а ўзраслі адміністрацыйныя патрабаванні. Уладу цікавілі справаздачы, пратаколы, а найменш — развіццё беларускай культуры ці асветы. Тады аднак было яшчэ далёка да сучасных абсурдаў.

На другім баку мяжы яшчэ больш наіўнымі былі дзеячы Беларускага народнага фронту і некалькіх меншых груповак, якія звярталіся да савецкіх беларусаў з лозунгамі пра нацыянальную годнасць, неабходнасць адраджэння роднай мовы і культуры. Як БДА на Беласточчыне, так і БНФ на Беларусі прамаўлялі да неісночага электарату. Узнікненне беларускай дзяржаўнасці ў 1991 годзе давала, аднак, надзею, што неўзабаве ўся дзесяцімільённая краіна загаворыць на беларускай мове. Здавалася, што гэта павінна быць лагічным і натуральным працэсам. Беларускі люд, якому надаела дэмакратыя, балаган, бяда і пачуццё безнадзейнасці, аддаў у 1994 г. свой лёс у рукі чалавека, які абяцаў яму, што верне савецкі дабрабыт і стабільнасць. Слова стрымаў. Не мінула шмат часу і не засталося следу здабыткаў нацыянальнага адраджэння пераломy 1980/1990-х гадоў. Наступіла стабілізацыя паводле савецкага ўзору. Беларусь у публічнай прасторы засталася толькі ў назве краіны, беларуская мова — на дарожных паказальніках. Не ўмацоўвае такая краіна нацыянальнай годнасці беластоцкіх беларусаў, бо не знаходзяць яны шмат супольнага з рускамоўнымі пакупнікамі з „картай паляка” ў кішэні, што прыязджаюць за таннымі прадуктамі ва ўсялякія „Лідлі”, „Бядронкі” ці „Ашоны”.

Нягледзячы на неспрыяльныя для развіцця нацыі працэсы ў Рэспубліцы Беларусь, беларуская палітычная актыўнасць на Беласточчыне прадаўжалася, аднак, вельмі доўга. Арганізатары беларускіх выбарчых камітэтаў і кандыдаты на дэпутатаў ці паслоў наогул не мелі ніякіх спадзяванняў на поспех, але пры кожнай нагодзе балатаваліся, заяўляючы пра сваю прысутнасць у гэтым кутку Польшчы. Гісторыя беларускага палітычнага руху закончылася разам з судовым працэсам супраць Праграмнай рады Тыднёвіка „Ніва”. Спектакль, які цягнуўся з 2003 да 2005 года, у якім удзельнічалі адміністрацыйныя, паліцыйныя, пракурорскія і судовыя ўстановы, паказаў месца беларусаў у публічнай прасторы Беласточчыны. Яно вярнулася туды сама, дзе было пры „народнай уладзе”. Можна свабодна займацца фальклорам, арганізаваць фестывалі дажынкавай песні, пісаць вершы пра птушак ці бацькоўскую хату, якой ужо няма, а нават крытыкаваць ворагаў дэмакратыі, гэтым разам не „народнай”, але „сапраўднай”. Нават фестываль „Басовішча”, які меў быць платформай інтэграцыі маладых беларусаў Беласточчыны, стаў адным з адрэзкаў змагання за дэмакратыю.




Адна з выбарчых лістовак БВК у самаўрадавых выбарах 2002 года.

З вялікіх планаў і спадзяванняў пачатку 1990-х гадоў засталося няшмат. Перапісы насельніцтва паказваюць, што колькасць беларусаў у Польшчы пастаянна скарачаецца. Яшчэ 20 год таму гаварылася пра 300 тысяч беларусаў на Беласточчыне. У сапраўднасці ніколі пасля вайны не было тут нават столькі праваслаўных. Паводле апошняга перапісу беларусаў у Польшчы ёсць амаль 10 разоў менш, чым раней дэкларавалася беларускімі дзеячамі. Пераважная большасць праваслаўных, якіх раней атаясамлівалі з беларусамі, рашуча называе сябе палякамі. Яны ў сапраўднасці і з'яўляюцца палякамі, хаця іншымі, чым палякі-каталікі. Паказальнікам стану беларускай нацыі на Беласточчыне з'яўляецца зацікаўленне вывучэннем роднай мовы. У пачатковых і сярэдніх школах колькасць вучняў паменшылася прапарцыянальна больш, чым паказвае падзенне дэмаграфічнага росту. Ад некалькіх гадоў цяжка было сабраць хаця б 15 ахвотных на беларускую філалогію ў Беластоцкім універсітэце. Улады факультэта вырашылі закрыць гэтую філалагічную спецыяльнасць па прычыне адсутнасці кандыдатаў у студэнты.

Як нацыянальная супольнасць беларусы страцілі шанц, які дала народам усходняй Еўропы эпоха вялікіх пераўтварэнняў 1990-х гадоў. Нічога новага, не першы гэта, а пэўна і не апошні раз. На Беласточчыне і ў Беларусі цяжка было заўважыць праявы нейкай нацыянальнай салідарнасці, ці кансалідацыі, так характэрнай усім народам у гэтай частцы Еўропы падчас пераломных перыядаў XX стагоддзя. Люд беларускі ад вякоў не верыў нікому, асабліва сваім элітам. У прыватным вымярэнні большасць беларусаў, называючы сябе палякамі, рускімі, украінцамі, ліцьвінамі, праваслаўнымі, скарыстала з гістарычнай транфармацыі і дасягнула нейкіх поспехаў. Змены, якія наступілі пасля 1989 года, безумоўна адмянілі нашае штодзённае жыццё на лепшае, нягледзячы на ўсе адмоўныя праявы, якія ім спадарожнічалі. Але такімі самымі словамі можна было б падсумаваць мінулае 25 гадоў, калі б нехта запрапанаваў напісаць падобны каментар у геркаўскую эпоху.

**Яўген МІРАНОВІЧ**





# Беларускі каляндар

Цікавая ў беларусаў рыторыка. З кім не пагаворыш, каго не пачытаеш, усе кажуць, што прайшло ўжо тры гады пасля разгону Плошчы. Ніхто не гаворыць, што прайшло тры гады пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў, а менавіта пасля разгону Плошчы. Пры гэтым дабаўляюць, што засталося два гады да прэзідэнцкіх выбараў. Вось так і адлічваем час. Такі вось беларускі каляндар — супрацьлеглы календару майя. У іх адлік часу і жыцця канчаецца канцом свету, а ў нас жыццё гэта і ёсць канец свету.

Чакаем выбараў, дастаём у косці і пачынаем зноў адлічваць час ад моманту разгону выбаршчыкаў да пачатку чарговых выбараў. Не ўлічаным застаецца цэлы кавалак часу: ад пачатку выбараў да разгону выбаршчыкаў, час чакання і надзей. Чакання нейкага цуда і надзей, што ўсё зменіцца само па сабе выключна з-за таго, што мы выйшлі на Плошчу, што выбарчая камісія пералічыць бюлетэні, міліцыя выйдзе з ружамі замест дубінак, дзеючы кіраўнік краіны павіншуе з перамогай усіх дзесяць апазіцыйных кандыдатаў, а мы рванём з Плошчы ў Польшчу па танныя памперсы, кававаркі і ўсё іншае. Там жа калядны распродаж усяго-ўсяго.

Цуд не здараецца. І мы пачынаем усё з пачатку. Наш каляндар ідзе па коле. І вось ужо зноў, як па камандзе, праз тры гады пасля разгону Плошчы і за два гады да чарговых выбараў пачалася новая дыскусія пра будучага палітвязня, які на бліжэйшы час будзе насіць лаўры адзінага ад апазіцыі. Нешта падобнае было і ў індзейцаў. Там таксама выбіралі нейкага чалавека, якому дазвалялася цэлы год рабіць усё што ён хоча: выбіраць якое хоча ўпрыгожванне і вопратку, камандаваць іншымі, выкарыстоўваць іх па сваім жаданні, браць у каго хоча і якую захоча ежу. А як год заканчваўся, яго проста прыносілі ў ахвяру і то не самым цывілізаваным чынам. І зноў выбіралі чарговага кандыдата на наступны тэрмін. Што дзіўна дык гэта тое, што і ў іх ад жадаючых адбою не было. Адна толькі розніца ад нашай сітуацыі такая, што ў індзейцаў гэтае ахвяраванне было абгрунтавана іх рэлігіяй, мела логіку і, адпаведна, сэнс. Ну дык яны ж дзікуны. Ім без сэнсу і логікі нельга. А мы ж людзі цывілізаваныя.

Гэтым разам дыскусію пра адзінага распачалі ўсе тыя, хто і мінулы раз найбольш непакоіўся гэтым пытаннем. І мы ўжо ведаем, што будучы кандыдат будзе маладым, ці проста малодшым за дзеючага кіраўніка краіны. (Пакуль што нічога незвычайнага). Прыгожы, высокі, з харызмай. (І з гэтым неяк справіцца можна). Таксама ён будзе мець досвед працы ва ўладзе і не належыць напрамую да апазіцыі. (Ужо становіцца смешна). А цяпер кульмінацыя — ён будзе пераходным. Вось так. Ні больш ні менш. Як вымпел. Пераходным. Маўляў, ад сённяшняга такога нельга напрамую да заўтрашняга не гэткага. Патрэбная фігура пераходная.

Вось украінцы ўжо ажно трох мелі такіх пераходных. Усім параметрам адпавядалі, якіх сёння беларускія разумнікі шукаюць. Усё пераходзілі, пераходзілі і зноў да Майдана прыйшлі. А пераходныя сабраліся з сённяшнім дзеючым, паразважалі на тэму „чаму Майдан нельга разганяць жорстка" і дзеючы паляцеў у Крэмль прымаць вялікія і лёсаносныя рашэнні. І пляваць яму на тое, што яны не супадаюць з жаданнем украінцаў. А пераходныя пайшлі дахаты, абмінаючы Еўрамайдан. Хоць сярод іх ёсць і такі пераходны, які стаў прэзідэнтам Украіны дзякуючы ўсё ж таму Майдану.

Відаць, недзе пралічылі, што пераходныя могуць пераходзіць туды-сюды да бясконцасці. Небяспекі ад іх ніякай. Таму і падкідваюць гэтую ідэю нашым разумным аналітыкам. Ну а тыя давай аналізаваць ды разважаць. Працэс важней за вынік. У нас алімпійскі падыход да выбарчай кампаніі. Галоўнае не перамога, а ўдзел.

Бо каб было па-іншаму, то шукалі б у будучым адзіным зусім іншыя характарыстыкі. У першую чаргу ці ведае ён што рабіць у той няўлічаны нашым беларускім календаром час, ад моманту, калі будзе ўкінуты апошні бюлетэнь, да моманту, калі на Плошчу выйдзе першы міліцыянт з дубінкай. І ці падрыхтаваная ў яго ўжо цяпер будучая навагодняя прэзідэнцкая прамова да беларускага народа.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Нацыянальныя выродкі



Ці беларусы маюць свайго Гамбровіча? Здзекліўца нацыянальных заган. Маральна неадназначнага героя — бісексуала і бунтара. Крытыка дробных старанняў. Сабепаночка, не толькі ў жыцці, але і ў літаратуры. Або, перш за ўсё ў літаратуры. Іншымі словамі: вольнага птаха, які творча апаганіў іх уласнае гняздо. Гвалтаўніка каталіцка-польскай напыхлівасці народжанай шматпакаленневымі комплексамі. Іканаборца шкаплерыкавай польскасці. Бескампрамісная каўтунажэра. Нацыянальнага выродка... Калі няма ў іх такога, гэта добра. Добра гэта сведчыць пра беларусаў. І калі ён у іх ёсць, гэта таксама нядрэнна. Добра, што нехта вымятае з-пад дывана ўсялякія нацыянальныя бруды, псеўдапатрыятычныя недагрызкі, цмачныя пускі апартунізму, зміяныя выпінкі пустапарожнясці. Польскае філістэрства-каўтунства паводле адных мае свіны лыч, па іншых — ядавую залозу. Асабіста мая думка схільная да апошняй. Мяне ванітуе ад шавінізму, нацыяналізму і безрэфлексіўнай рэлігійнасці маіх суайчыннікаў. Я адчуў гэта на сабе. У маім родным горадзе Беластоку. Не ў польска-беларускай вёсцы, у якой у цяперашні час жыву. Як ні дзіўна, што найбалюча сярод тутэйшых журналістаў і пісьменнікаў — людзей, здавалася б, прызначаных для думання, а не абдурвання. Чаму так ахвотна пырскаюць атрутнай слінай, я не ведаю. Не разумею. Хоць у мяне ёсць некаторыя падазрэнні адносна таго, адкуль бярэцца ў іх так многа нацыянальнага яду. З філістэрства, мяшчанства-каўтунства. З гэтага мяшчанства, якое амаль дзяржаўная рацыя. Аснова нацыянальнай ідэнтычнасці. Польская сарамаціна. Паказваецца яна ў гаварыльні палітыканаў з Радыё Марыя. У нерафінаваным міжслоўі парламенцкіх сварак. У творчасці імкнучыхся да вяшчунства. У трызненні праўдзівых палякаў. У агульным паўсядзённым жыцці.

Несумненна, польскае каўтунства ўзмацняюць макушыныя сокі каталіцкага касцёла. Я не кажу пра яго чыстыя крыніцы. Я маю на ўвазе крывадушнасць некаторых яго святароў. Іх духоўную ляноту. Паспалітае лодырства. Або толькі боязь перад праблемамі, якія ставіць перад кожным чалавекам сучасны свет. Можна назваць гэта адсутнасцю адваг. Або таксама адсутнасцю маральнай мужнасці. Хоць, аднак, як бы вось гэта не назваць, гэта заўсёды прыводзіць да філістэрства.

Ці палякі былі б больш шчаслівым, больш сучасным, дастатнейшым народам, калі б не ўскладзенае на яго каўтунства? Асабліва касцельнае філістэрства. Без сумневу, так. Таму што, як нядурна сказаў у інтэрв'ю тыднёвіку «Newsweek» Ежы Урбан: «Прагрэс у ідэалагічных і маральных пытаннях (... ) з'яўляецца неабходнай умовай для мадэрнізацыі мыслення, а гэта, у сваю чаргу, умова мадэрнізацыі эканомікі». Але паехаў я задалёка — вяртаюся да філістэрства.

Ці толькі яно з'яўляецца характэрнай рысай палякаў? І ці гэтае паняцце можна вызначыць за межамі польскай ідэнтычнасці? Другое пытанне патрабуе раскрыцця. Пачынаючы з Рабле, Мальера, Дыкенса, і заканчваючы на Гашаку, Булгакаве ці нават Быкавым, філістэрства было для іх творчым пажыўным асяроддзем, зыходным матэрыялам для сур'ёзных абагульненняў, якія тычацца чалавечай прыроды. Каўтунства, вось, мае глабальны абсяг. Толькі Вітальд Гамбровіч, яго найзаядлы працўнік, настаяў засцерагчы яго клаўзулай нацыянальнасці. Паводле яго слоў гэта асаблівасць вылучна польская, пабудаваная на падмурку нацыянальнай маніі велічы. Толькі што і ў кожнай нацыі ёсць тэндэнцыя да мяшчанства, усё ж, паводле яго слоў, толькі палякі зрабілі яго агульнанацыянальнай цнотай. Таму што калі ў любым іншым народзе філістэрства прызначаецца толькі фізічным асобам, дык у Польшчы адзінкі складваюць яго ў даніну павагі да цэлай нацыі.

Польскім філістэрствам займаўся перш чым Гамбровіч Бой-Жаленскі. І зрабіў гэта нашмат больш дакладна, чым яго ідэалагічны нашчадак. Бо як лекар-пісьменнік, не кончыў толькі на дыягностыцы захворвання, але таксама цікавіўся прычынамі для таго, каб заняцца яго лячэннем. Гамбровіч палічыў, не без падстаў, што каўтунства гэта арганічна польскі недахоп. Нельга адсекчы яго ланцэтам, як ракавую пухліну. Гэта эндакрынная залоза, без якой палякі не былі б палякамі. Дык кім яны былі б без яго? Гэтага Гамбровіч не сказаў. Мабыць, ён не ведаў, а калі б ведаў і не сказаў, былі бы толькі простым нацыянальным выродкам. Ці беларусам патрэбен такі выродак?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Справаздача

На жаль, паскораны перадсвяточны выдавецкі цыкл «Нівы» спрычыніўся да таго, што справаздача з адбываючагася 22 снежня з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства будзе апублікавана ў наступным нумары. Тым не менш, у мяне была магчымасць пазнаёміцца яшчэ да з'езда з адносна шырокім дакладам аб дзейнасці Таварыства за папярэдні перыяд (2010-2013). У дакуменце амаль у самым пачатку была звернута ўвага: «Арганізацыйныя органы БГКТ на працягу ўсяго 4-годдзя працавалі ўжо нармальна, вяртаючыся да сваёй, дзесяцігоддзямі выпрацаванай актыўнасці, пасля драматычных здарэнняў папярэдняга перыяду. У імя праўды і справядлівай ацэнкі трэба сказаць, што некаторыя члены статутовых органаў БГКТ ад выбараў і да гэтай пары не праявілі ніякай, бадай сімвалічнай актыўнасці або зацікаўлення да грамадскай дзейнасці нашага Таварыства. Факт гэты здзіўляе тым больш, што да прыналежнасці да кіруючых органаў ніхто не прымушаў, адбывалася гэта на аснове дабравольнай дэкларацыі на прыналежнасць і грамадскую дзейнасць на карысць беларускай меншасці ў Польшчы». Падкрэслены факт, што БГКТ не можа атрымаць за чарговыя гады міністэрскіх датацый на Міжнародны фестываль беларускай песні «Беласток — Гродна» і міжнародную навуковую канферэнцыю «Шлях да ўзаемнасці», а таксама арганізаваны ў Сямятычах з 2012 года фестываль «Культура без межаў» і — як яго называлі — суб'ектыўнае фінансаванне ўтрымання сядзібы БГКТ па адрасе вул. Варшаўская і аплаты бухгалтара — зменшанае да 42 000 злотых, з 48 900 злотых, якія і так былі недастатковымі. Я праверыў гэтую інфармацыю. Аказалася, аднак, што гэтая сума не памяншаецца.

Шырока адзначаўся ўдзел БГКТ у рэалізацыю пасля чатырнаццаці гадоў намаганняў ідэі пабудовы помніка праваслаўным ахвярам другой сусветнай вайны і пасляваеннага перыяду, святых пакутнікаў Падляшскай зямлі і выпушчанай з нагоды цырымоніі яго адкрыцця «Кнігі памяці», а таксама м.інш. рамонт будынка дзевятнаццатага стагоддзя, у якім знаходзіцца сядзіба Таварыства. Гэты раздзел даклада быў завершаны сказам: «Увесь час і надалей адчуваем не заўсёды прыхільныя адносіны да нашай дзейнасці з боку сродкаў масавай інфармацыі». Ніякай увагі не было нададзена, аднак, таму, што БГКТ зрабіла, калі гэта так фактычна, каб гэтае становішча змяніць.

Вядома, найбольш шырока ілюструецца дзейнасць БГКТ у галіне беларускай культуры: дзесяткі калектываў і цэлы шэраг падзей і юбілеяў ды ўзнагарод, якія атрымалі дзеячы. Пры нагодзе напісана: «Культурная дзейнасць БГКТ на працягу года дафінансоўваецца квотай каля 450 тысяч злотых з міністэрства і органаў самакіравання разам. Узяўшы пад увагу факт, што дзяржава не гарантуе фінансавых сродкаў на штаты, ганарары для калектываў, а толькі мінімальныя сродкі на памяшканні і паўштату бухгалтара, то квота датацыі з'яўляецца вельмі мізэрнай». Была звернута ўвага: «Ніяк не можам перакanaць міністэрства, што культура можа дынамічна развівацца толькі тады, калі мае шанцы на дыялог, на дынамічныя кантакты з культурамі другіх народаў ці нацыянальнасцей».

Наступны раздзел у справаздачы прысвечаны ўдзелу БГКТ у развіцці беларускага школьніцтва, у тым ліку конкурсам для дзяцей і моладзі. Тут адзначана: «Бар'ерам высокіх колькасных паказчыкаў навучання беларускай мовы з'яўляецца абавязак складання ў школах заявак бацькамі адносна вывучэння іх дзецьмі беларускай мовы. Таму толькі каля 42% беларускіх дзяцей і моладзі вывучае родную мову». Пры нагодзе з'явілася шкадаванне: «Шкада, што і далей наша моладзь — выпускнікі беларускіх ліцэяў у Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы не паступаюць у вышэйшыя ўстановы Рэспублікі Беларусь. Прычынай такой сітуацыі з'яўляецца абавязак настрыфікацыі дыпломаў».

У канцы маёй — з-за неабходнасці вельмі кароткай — справадачы са справаздачы я хацеў бы згадаць аб завяршаючых дакумент БГКТ напрамках яго дзейнасці — як сказана — у новай, чатырохгадовай перспектыве, змешчанай у адзінаццаці пунктах. Аднак, я буду пісаць пра гэта ў справаздачы са з'езда, спадзеючыся, што таксама дэлегаты будуць мець у гэтым стаўленні што сказаць і што будзе змешчана ў планах дзеянняў гэтай найстарэйшай беларускай арганізацыі ў Польшчы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пра любоў да Царквы, нацыі і роднай мовы

У царкоўна-гістарычным семінары «Гісторыя праваслаўных прыходаў і духавенства Падляшша і Заходняй Беларусі XIX і XX стагоддзяў», наладжаным 14 і 15 снежня ў Бельску-Падляшскім, прынялі ўдзел святары і свецкія асобы, беларусы з Польшчы і Беларусі, якія даследуюць гісторыю, займаюцца выдавецкай дзейнасцю і літаратурнай творчасцю, так як інак Мікалай (Бембель) з Успенскага мужчынскага манастыра ў Жыровічах. Каб пазнаёміцца з гісторыяй Падляшша і Заходняй Беларусі, даведацца аб праваслаўных выданнях і асветнай дзейнасці, а таксама паслухаць дакладаў на роднай мове прыбылі на семінар бяльшчане і прыезджыя.



Айцец Сяргей Гардун (справа), з другога боку стаіць Ірэна Матус, а за сталом айцец Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік

— Задума наладзіць царкоўна-гістарычны семінар у Бельску-Падляшскім была раней, але канчатковае рашэнне, што будзе ён арганізаваны ў палове снежня, было прынятае нядаўна. Прамоцыі чакала выданне **«Hierarchia i kler Kościoła prawosławnego w granicach II Rzeczypospolitej i Polski powojennej w XIX-XXI wieku»** айца Рыгора Сасны і матушкі Антаніны Троц-Сасны з Рыбалаў ды кніжка **«Schyłek unii i proces restytucji prawosławia w obwodzie białostockim w latach 30. XIX wieku»**, якую нядаўна выдала Ірэна Матус. Калі мы далучылі да іх гасцей з Беларусі, з якімі супрацоўнічаем, і два іншыя нашыя даклады, стварылася багатая праграма царкоўна-гістарычнага семінара, — сказаў Дарафей Фіёнік — старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», арганізатар гістарычнага мерапрыемства ў супрацоўніцтве з Домам праваслаўнай культуры ў Бельску-Падляшскім і Брацтвам у гонар Віленскіх мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія ў Мінску.

Асноўная частка семінара, з дакладамі і дыскусіяй, праходзіла якраз ў Доме праваслаўнай культуры, але дакладчыкі прымалі таксама ўдзел у багаслужбах ў Прачысценскай і Пакроўскай цэрквах і ў XII Вечарах царкоўнай музыкі ў Бельскім доме культуры, у рамках якіх была арганізавана царкоўна-літаратурная вечарына з удзелам інака Мікалая (Бембеля). Іграў ён на фартэпіяна і дэкламаваў свае патрыятычныя вершы, а шматлюдная публіка вельмі горача апладзіравала, узрушаная ягонымі творамі.

Мітрафорнаму протаіерэю Рыгору Сасне, які першым выступіў на семінары, спадарожнічалі матушка Антаніна Троц-Сасна і сямейнікі, у тым ліку намеснік прэзідэнта горада Беластока Аляксандр Сасна. Сярод гасцей семінара былі дэкан Бельскай акругі мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, святары, старшыня Літаб'яднання «Белавежа» прафесар Ян Чыквін і загадчыца Кафедры беларускай філалогіі Універсітэта ў Беластоку прафесар Галіна Тварановіч. Суарганізатарам мерапрыемства быў бельскі віцэ-дэкан протаіерэй Юры Багацэвіч, які адкрыў семінар. Айцец Рыгор Сасна распавёў пра энцыклапедычны інфарматар «Іерархія і клір Праваслаўнай царквы ў межах II Рэчы Пасапалітай і пасляваеннай Польшчы ў XIX-XXI стагоддзях».

— На падставе гэтай кніжкі можна аналізаваць нашую гісторыю і можна стварыць памятнікі свайго роду, — заявіў айцец Рыгор і дабавіў. — Вялікую работу выконвае для нас Дарафей Фіёнік. Жадаю яму выхаваць вучняў, бо сам ён не справіцца са сваёй аграмаднай працай.

— Несумненна маем дачыненне з піянерскай апрацоўкай, якая заслугоўвае прызнання і захаплення. Само камплектаванне даных патрабавала шматгадовай дэталёвай працы аўтараў. Апрацаванню характэрныя сумленнасць падрыхтоўкі і выканання. Трэба сапраўды быць энтузіястам і мець свядомасць значэння сваёй працы, каб стварыць такі шэдэўр. Слава яго аўтарам — айцу доктару Рыгору Сасне і матушцы Антаніне, — лічыць даследчык праваслаўя прафесар Антон Мірановіч.

Доктар Ірэна Матус пазнаёміла ўдзельнікаў семінара з нававыдадзенай кніжкай «Занялад уніі і працэс адраджэння праваслаўя ў Беластоцкай акрузе ў трыццатых гадах XIX стагоддзя».

— Уніяцкая царква на нашых землях у першай палове XIX стагоддзя моцна розілася ад Грэка-каталіцкай царквы, да якой зараз належаць украінцы ў Польшчы, нават у нацыянальным сэнсе. У пачатку XIX стагоддзя ўніяцкія святары ў нас былі спаланізаванымі, паўсюдна размаўлялі на польскай мове. У цэрквах маліліся да канца на царкоўнаславянскай мове, але ад 1696 года пачалі выводзіць кірыліцу са школ, паланізаваць іх. Святары вучыліся багаслужбам на царкоўнаславянскай мове, адзін ад другога перапісваючы патрэбнае на лацінцы. Дома нашыя продкі сталі гаварыць малітвы на польскай мове, бо так іх вучылі. Ва ўніяцкіх цэрквах у нас у канчатковым перыядзе не было ўжо прастолаў і іканастасаў, толькі каталіцкія алтары і амвоны, — гаварыла Ірэна Матус.



У першым рядзе другі злева: інак Мікалай (Бембель)

Інак Мікалай (Бембель) выступіў з дакладам «Царква і нацыя. Беларускі аспект з асабістага вопыту», які з'яўляецца часткай рыхтаванай да друку яго новай кніжкі «Крэсіва II», працягу першага «Крэсіва». Прачытаў ён свае патрыятычныя вершы, пазнаёміў з багаслоўска-літаратурным лісткам «Жыровіцкая абіцель», у якім публікуе вершы падпісаныя літаратурным псеўданімам «Зніч». «Жыровіцкая абіцель» з багаслоўскімі разважаннямі выдаецца на беларускай мове ў Жыровіцкім манастыры.

— У «Крэсіве II» будуць мае вершы і багаслоўскія разважанні з ухілам на беларускую нацыю. Задача беларуса не толькі любіць беларускую мову, але карыстацца ёй у сваім жыцці, а тады будзем на ёй маліцца і ў час богаслужэнняў. Нашая Царква і беларуская нацыя пакрыты бел-чырвона-белай Хрыстовай плашчаніцай, бо нават на аблачэнні праваслаўных епіскапаў знаходзяцца колеры плашчаніцы. Цяпер самая вялікая бяда беларусаў гэта забіванне немаўлят ва ўлоннях мацярэй. Такім чынам загінулі мільёны беларускіх дзетак. Нам усім трэба пакаяцца і тады добрымі ўчынкамі можна вымаліць Госпада, каб бел-чырвона-белыя колеры Хрыстовай плашчаніцы зноў сталі нашым дзяржаўным сцягам, — заявіў інак Мікалай.

Канстанцін Антановіч з Мінска расказаў пра выданні на беларускай мове Брацтва Віленскіх мучанікаў, а Марк Якімюк у сваю чаргу распавёў пра беларускія выданні Гайнаўскага праваслаўнага выдавецтва «Братчык».

— Мы цесна супрацоўнічаем са Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыром у Полацку. З'явілася ініцыятыва заснаваць у нас Духоўна-асветны цэнтр пад патранатам Еўфрасінні Полацкай. Хочам у XXI стагоддзі весці асветную дзейнасць у духу Еўфрасінні Полацкай, звяртаючы ўвагу на духоўныя і нацыянальныя аспекты. Выдавецтва «Братчык» атрымала вялікую дапамогу з Беларусі, дзякуючы хадайніцтву генконсула Міхала Аляксейчыка і іншых асоб. Мы перавыдалі выданні, якія выйшлі з друку ў Рэспубліцы Беларусь, — расказаў Марк Якімюк з выдавецтва «Братчык», якое ў наступным годзе будзе адзначаць 20-годдзе сваёй дзейнасці.



Марк Якімюк распавёў пра беларускія выданні выдавецтва «Братчык»

У час семінара протаіерэй Сяргей Гардун з Мінска выступіў з дакладам «Гісторыя праваслаўных прыходаў Дзівіна Кобрынскага благачыння», расказваючы пра два праваслаўныя прыходы ў вялікай вёсцы Дзівін.

— Хрысціянская мараль і любоў да бліжняга, гэта таксама любоў да сваёй Царквы, да сваёй нацыі і роднай мовы, якая ў нас павінна праяўляцца таксама ў багаслужбах на беларускай мове, калі гэтага патрабуюць вернікі. Царкоўнаславянская мова XIII стагоддзя розілася ад царкоўнаславянскай мовы XVI стагоддзя, на якой мы зараз молімся. Калі вернікі хочуць маліцца ў царкве па-беларуску, то мы павінны ствараць такую магчымасць, побач царкоўнаславянскай мовы. Людзі павінны мець выбар, — сказаў протаіерэй Сяргей Гардун, член Беларускай біблейскай камісіі, якая займаецца між іншым перакладамі на беларускую мову. — Самастойна я пераклаў на беларускую мову Літургію і Малітваслоў з падставовымі малітвамі. Калектыўна мы пераклалі на беларускую мову Евангелле ад чатырох евангелістаў, Дзеянні апосталаў, Саборнае пасланне і робім пераклад Паслання апостала Паўла. Пакі поўнасцю багаслужбы на беларускай мове адбываюцца ў Беларусі толькі ў 10 цэрквах, побач багаслужбаў на царкоўнаславянскай мове, а ў іншых паасобных храмах багаслужбы па-беларуску служацца час ад часу, па просьбах.

Лідзія Кулажанка з Мінска расказала аб праваслаўных прыходах у Заходняй Беларусі ў 1940-60 гадах, Алена Шацько з Мінска гаварыла пра гісторыю царкоўных званоў на Берасцейшчыне, Ян Чарота з Мінска распавёў аб прыходзе ў Вежках Кобрынскага благачыння ў саракавых гадах мінулага стагоддзя. Аляксандр Ільін з Пінска і Мікола Сінкевіч з Бярозы расказалі пра гісторыю парафіі ў Блудні на Бярозаўскім Палессі, а Дарафей Фіёнік — пра сямейныя сувязі праваслаўнага духавенства на Падляшшы і Палессі.

— Ёсць роды, у якіх адшукалі мы па 30-40 святароў. Жылі яны на Падляшшы і Палессі, бо яны былі спалучаны з сабой у геаграфічным плане. Многа святароў было ў родах Будзіловічаў, Катовічаў, Краскоўскіх, Тарановічаў ці Кастыцэвічаў. Можна сказаць, што нашыя святары жылі ў вялікім крузе, на акраінах якога былі гарады Бельск-Падляшскі, Драгічын, Пінск, Слонім і Гародня. Калі свяшчэннікі становячыся ацэньваліся іерархамі, то часта бывала, што па бацьку або дзядулі настаяцелямі станавіліся ў прыходзе сын або ўнук і род святароў доўгі час служыў на адным месцы, — патлумачыў Дарафей Фіёнік, ініцыятар і арганізатар супольнага даследавання гісторыі Падляшша і Палесся.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Нараўка ў 2013 годзе

Нараўчанская гміна (яна ў Гайнаўскім павеце) налічвае 3 875 пастаянных жыхароў і 100 на часовым побыце, якія пражываюць у 42 мясцовасцях. Мужчын больш чым жанчын на дзевятнаццаць — іх 1 947. Ва ўзросце васемнаццаці гадоў толькі 21 юнак і 15 дзяўчын. Ва ўзросце звыш 60 гадоў прадстаўніц прыгожага полу ёсць 660 і гэта ўдвая больш чым мужчын. Як цікавінку варта дадаць, што зараз, напрыклад, у Новым Ляўкове пражывае 16 удавіц і 4 удаўцоў (двух памерла сёлета).

Найбольшыя вёскі — Нараўка (у ёй пражывае 927 чалавек), Семяноўка (412), Старое Ляўкова (342), Новае Ляўкова (213), Скупава (193), Міклашэва (175), Плянта (156), Лешукі (124), Тарнопаль (122), Альхоўка (109), Ахрымы (100), Свінарoі (93), Заблотчына (68) і Стачок (66).

Да найменшых пасяленняў належаць Лазовае (у ім 1 жыхар), Гнілец (у ім 2 жыхары), Баравыя і Ланчына (па 6), Замоша (8), Церамкі (9), Забрады (10) ды Новіны і Парослае (па 13).

У параўнанні да мінулага года лік жыхароў паменшаў, між іншым, у Старым Ляўкове на 9, у Лешуках на 6, у Новым Ляўкове на 5, у Гарадзіску, Янове і Семяноўцы на 4, у Альхоўцы і Скупаве на 3, у Забрадах, Семенякоўшчыне, Слабодцы, Сушчым Барку, Старым Масеве і Тарнаполі на 2 ды ў Новай Луцэ, Падляўкове і Стачку на 1.

У некаторых вёсках лік жыхароў павялічыўся, напрыклад, у Нараўцы на 8, у Леснай і Міклашэве на 3, у Забрадах, Плянце, Ахрымах, Баб'яй Гары, Бярнацкім Мосце, Гушчэвіне, Міхнаўцы і Свінароях — па 1. У адзінаццаці мясцовасцях лік не змяніўся і ўстойлівы ён ад пару гадоў. Сёлета ў Нараўчанскай гміне пяць пар ладзіла „залатое вяселле" — 50-годдзе шлюбнага сужыцця. У мінулым годзе такіх пар было адзінаццаць. Зараз у гміне няма ні аднаго стогадовага жыхара.

## Камунальныя кватэры

У мінулым годзе ў Беластоку здалі ў карыстанне 83 камунальныя кватэры ў блоках па вуліцы Барсучай на пасёлку Дайліды. Пабудавала іх гміна.

Сёлета горад пабудаваў тры жылыя блокі для маламаёмных беластачан па вуліцы Клепацкай на пасёлку Старасельцы. У іх 60 камунальных кватэр. У будучыні Праўленне камунальнай маёмасці намерана больш грошай накіроўваць на мадэрнізацыю ўжо існуючых камунальных будынкаў у Старасельцах. Перш за ўсё будуць рамантаваць дахі, вокны і купальныя пакоі, ліквідаваць кафляныя печы. Зараз на гэта адвялі некалькі мільёнаў злотых.

Новы жыллёвы камунальны пасёлак пабудуюць па вуліцы Бэма. У першым этапе горад паставіць тры жылыя блокі. Будзе ў іх 187 кватэр. На пасёлку Бэма ў гміны васьмігектарны ўчастак пад жыллёвае будаўніцтва. Ужо ў будучым годзе пачнуць пабудову 37 новых кватэр у адным блоку па вуліцы Барсучай (на Дайлідах).

Варта дадаць, што камунальныя кватэры ў Беластоку — запатрабаваныя. Зараз перад уладамі аб атрыманні камунальных кватэр хадайнічае 70 грамадзян. Толькі іх ёсць у сёлетнім спіску. На г.зв. сацыяльныя кватэры (яны ў зніжаным стандарце) чакаюць 243 асобы. **(яц)**

# Нямая беларуская «ПРАСТЫТУТКА»




**Польская прэм'ера фільма «Прастытутка» (іншая назва: «Знішчаная жыццём»), пастаўленага ў 1926 годзе Белдзяржкіно ў рэжысуры Восіпа Фрэліха з жывой музыкай гурту «Ilo&Friends» завяршыла першы этап праекта «Тузін. Немаўля». У яго рамках агучаны тры даваенныя беларускія нямыя фільмы. Паказ «Прастытуткі» ў зале Падляшскай оперы і філармоніі суправаджала прэзентацыя рэплік фільмавых плакатаў з 20-х і 30-х гадоў мінулага стагоддзя.**

У рамках ажыўлення нямога беларускага кіно, акрамя «Прастытуткі», паказалі «Народжаную ў агні», да якой жывую музыку іграў гурт «Рэлікт» са Светлагорска на Палессі і «Кастуся Каліноўскага», агучанага мінскім кампазітарам і піяністам Сяргеем Пукстам, сынам славутага беларускага аўтара знакамітых опер (у тым ліку «Свіцязанкі») Рыгора Пукста. Задумшчыкам прэзентацыі ў такой форме беларускага нямога кіно быў Сяргей Будкін, галоўны рэдактар сайта «Тузін гітоў», а каардынаткай ад польскага боку — Ілона Карпюк-Дамброўская, лідарка «Ilo&Friends», з імпрэсарыята Падляшскай оперы і філармоніі, установы, якая была партнёрам у праекце. Прэм'ера «Народжанай у агні» і «Кастуся Каліноўскага» адбылася ў мінулым годзе ў Беластоку на фестывалі «Camera!ta», аб чым мы пісалі тады ў «Ніве». Фільмы былі паказаны ў апошні час таксама ў Гайнаўцы («Прастытутка») і ў Тарэспалі («Народжаная ў агні»). У лістападзе 2012 года дэманстрацыі адбыліся ў мінскіх клубах «Лофт» і «Графіці». Спецыяльная прэзентацыя фільма «Кастусь Каліноўскі» адбылася ў ліпені гэтага года ў Мастаўлянах (на радзіме Кастуся Каліноўскага) у рамках фестывалю «Басовішча». У пачатку лістапада праект быў прадстаўлены ў рамках XX Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». У мінскім кінатэатры «Перамога» былі паказаны ўсе тры фільмы з жывой музыкай. Спецыяльна для фэсту былі прывезены арыгінальныя фільмы з Дзяржфільмафонду Расіі, які базуецца ў Маскве. Як кажа Сяргей Будкін, яго мара — паказаць усе фільмы і ў іншых гарадах Беларусі.

Перад праекцыяй «Прастытуткі» Ілона Карпюк-Дамаброўская сказала «Ніве»:

— Гэтым паказам канчаецца пэўны этап нашага праекта. Горш за ўсё тое, што я не ведаю, што рабіць далей. Хацелася б працягнуць яго. З такім фільмавым матэрыялам, падрыхтаванай музыкай, запісанымі дыскамі, плакатамі хацелася б, каб праект яшчэ існаваў на розных мерапрыемствах, фестывалях, тым больш, што ў Заходняй Еўропе ёсць цікаўнасць нямым кіно з жывой музыкай.

Спыталіся мы пра прыём гэтых фільмаў у Беларусі:

— Публіка, што з'явілася на паказах у Беларусі, увогуле не ведала пра існаванне такога кіно. Яшчэ большую цікаўнасць выклікала тое, што гэтыя фільмы з жывой музыкай. Здзіўленне гэтым відам нацыянальнай спадчыны ператварылася ў захапленне.

Дадала:

— Ёсць яшчэ і іншыя нямыя фільмы ў Беларусі і чакаюць яны свайго агучэння і прэзентацыі.

Перад праекцыяй «Прастытуткі» быў выпушчаны кароткі фільмавы матэрыял, які падсумоўвае ўвесь праект. Аўтар тэлепраграмы «Відзьма-нявідзьма» на канале «Белсат» Сяргей Філімонаў сцвярджае ў ім:

— Гэтым праектам павінна займацца як мінімум Міністэрства культуры краіны і прасоўваць яго на еўрапейскім узроўні, у сусветным маштабе.

Аналітык культуры і філасаф Максім Жбанкоў дадаў:

— Гэта новы шлях на асэнсаванне старога матэрыялу. На самой справе, у такім сутыкненні мы атрымліваем новы, прывабны прадукт для сучаснага спажыўца.

«Прастытутку» агучваў гурт «Ilo& Friends», які складаецца з Ілоны Карпюк — вакал, куранты, тамбурына, Марціна Кахановіча — электрычная і акустычная гітары, Андрэя Гжэся — ударныя (плюс бас), Пятра Ігнатовіча — бас-гітара (плюс акустычная гітара), Паўла Амбражэвіча — клавішныя. Каманда выкарыстоўвала між іншым музычныя матывы, якія былі некалькі гадоў таму складзены клавішнікам і басгітарыстам. Як прызнаецца Ілона Карпюк-Дамброўская, «Ilo&Frinds» не працавалі над музыкай да фільма, але здарылася так, што стварылі музыку для спектакля. На яе думку, сувязным элементам гэтага тыпу працы над музыкай з'яўляецца неабходнасць увесці малюнак эмоцый ці на экране, ці на сцэне пасля апрацоўкі іх праз асабістыя пачуцці і стылістыку гурту:

— Мы хацелі, каб музыка была характэрная для нашай каманды, але таксама падкрэсліла сэнс фільма. Задача заключаецца ў тым, каб праз музыку перакапаць гледача да атмасферы фільма.

Працягваючаяся больш за гадзіну «Прастытутка» з'яўляецца сацыяльнай меладрамай, прысвечанай праблеме, якая існуе ў дваццатыя гады — прастытуцыі. Тадышнія даследаванні паказваюць, што паслугамі прастытутак карысталіся да 60% мужчын. Такім чынам, пры Народным камісарыяце быў створаны камітэт па барацьбе з прастытуцыяй. У дадатак да рэпрэсіўных метадаў прымяняліся таксама ідэі сацыяльнай прафілактыкі. Напрыклад, непасрэдна ў венералагічных лазарэтах былі створаны майстэрні, дзе праводзілася праграмная сацыялізацыя «рабынь кахання». Як апісваюць гэты фільм арганізатары «Тузіна. Немаўля», яго дзеянне адбываецца на працягу гэтага перыяду. У цэнтры падзей — спакойная сям'я. Пётр працуе ў мясніка, яго жонка Надзея вядзе дом і выхоўвае двое дзяцей. Аднак здараецца трагедыя, Пётр гіне, і Надзея вымушана аддацца мясніку, пасля вырашае зарабляць на жыццё прастытуцыяй. «Публіка прыняла фільм выдатна, але крытыка не глядзела спрыяльна на першую беларускую сацыяльную драму, больш за тое, знайшла ў ім уплывы «буржуазных нямецкіх псеўданавуковых фільмаў». У дакуменце, датаваным 1937 годам, Белдзяржкіно паведамляла кіраўніку кінаіндустрыі СССР аб знішчэнні «варожых» фільмаў. Забарона на паказ «Прастытуткі» была матываваная яго «палітычнай некарэктнасцю». У савецкія часы пра фільм саромеліся (і баяліся) успамінаць, таму на працяг доўгага часу знік ён са спіскаў айчыннага кінематографа» — можна прачытаць у інфармацыі, далучанай да беластоцкай праекцыі.

У сваю чаргу копіі плакатаў удалося дастаць арганізатарам праекта з Музея гісторыі кіно ў Мінску. Ілона Карпюк-Дамброўская:

— Гэта эксклюзіўны тавар. Не ўсе плакаты ў гэтым музеі даступныя ў папяровай версіі, частка знаходзіцца ў электронным выглядзе. Многія з тых, што захоўваюцца на паперы, або цяжкадаступныя, таму што яны ахоплены рознымі законамі аб аўтарскіх правах. Для кожнага з трох фільмаў прадстаўляем старыя і новыя версіі плакатаў, якія зрабілі сучасныя мастакі.

Аўтаркай новага плаката для «Прастытуткі» з'яўляецца Васіліса Паляніна-Календа. Для іншых: Лавон Вольскі і Анджэй Ветэшка.

Дарэчы, варта адзначыць, што паказ фільма ўпісаўся ў працягваючуюся ў Беларусі дыскусію аб прастытуцыі. Па дадзеных нядаўняга апытання незалежнай газеты «Свободные Новости Плюс», у Беларусі паслугамі беларускіх прастытутак найбольш часта карыстаюцца мужчыны з сярэднім сацыяльным статусам, часта прабываючыя ў камандзіроўцы ды прыехаўшыя з каўказскіх рэспублік. На трэцім месцы ў статыстыцы размясціліся бандыты, а на чацвёртым... міліцыянты. Статыстычная беларуская прастытутка мае 14-35 гадоў і сярэднюю адукацыю. Амаль 90% з іх прыязджаюць з правінцыі. Кожная трэцяя прастытутка перад працай была згвалтавана. Беларуская прастытутка прымае ў сярэднім амаль 300 мужчын у год. Рэкардсменка — па дадзеных газеты — прыняла за год аж 2 700 мужчын. У апошні час на дзяржаўным канале СТВ лекар-гінеколаг Таццяна Сіманенка сказала тое, што ніхто не адважваўся вымавіць услых: «У Беларусі неабходна легалізаваць прастытуцыю». Па думку лекаркі, гэта падыме бяспеку кліентаў і супрацоўнікаў сексіндустрыі. Падкрэсліла яна, што менавіта гэты сектар бізнесу павінен быць пад жорсткім кантролем дзяржавы. Упершыню ўлады адкрыта сказалі пра існаванне прастытуцыі ў Мінску і іншых буйных гарадах яшчэ ў зімовы перыяд: тады прастытуткі, якія не хацелі заплаціць штраф за сваю незаконную дзейнасць, былі сілай прымушаны адрабляць штраф у якасці прыбіральніц — выконваючы дрэнна аплачваную працу, «грамадска карысную», якая рэсацыялізуе. За занятак прастытуцыяй у Беларусі можна трапіць у турму на шэсць месяцаў. Але, як правіла, справа канчаецца звычайным штрафам памерам у тысячу долараў, пры даходах некаторых прастытутак сягаючых 500-600 долараў у суткі, а за гадзіну — 150-200 долараў. Эксперты ацэньваюць гадавы абарот беларускага рынку секспаслуг на прыкладна 160-200 мільёнаў долараў. Гэты рынак працуе амаль выключна ў двухмільённым Мінску.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

Да 130-годдзя з дня нараджэння пісьменніка

# Мастацкі вобраз п'есы *На Антокалі* Францішка Аляхновіча: матывы і персанажы

**Пасля вайны імя Францішка Аляхновіча доўгі час было забытым, нягледзячы на тое, што стаяў ён ля вытокаў беларускага нацыянальнага і культурнага адраджэння XX стагоддзя і, як часта цяпер падкрэсліваецца, ён — бацька сучаснай беларускай драматургіі. Хоць яшчэ ў васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя мне былі вядомымі шматлікія творы пісьменніка, дык той факт, што аўтар з'яўляўся амаль цалкам забытым у беларускім літаратуразнаўстве і крытыцы, не спрыяў іх даследаванню.**



Сітуацыя цалкам змянілася пасля 1991 г. разам з узнікненнем Рэспублікі Беларусь і чарговым з'яўленнем ягоных твораў у друку. Аляхновіч ізноў ажыў не толькі ў шматлікіх мастацкіх і навуковых выданнях, але гэтаксама і на беларускай сцэне, і ў яшчэ большай меры — у інтэрнэце. Сёння ягонае імя прысутнае на дзесятках тысяч інтэрнэтавых старонак і гэта таксама сведчыць аб неўміручасці яшчэ не так ужо і даўно амаль цалкам забытага аўтара. Ва ўсёй складанасці жыццёвага і творчага лёсу ізноў з неабыякой сілай узнік перад намі феномен таленту і творчасці аднаго з пакутнікаў і адраджэнцаў сучаснай беларускай драматургіі. Яго творчым пачаткам стала першая п'еса драматурга *На Антокалі* (Вільня 1918).

П'еса *На Антокалі*, хоць і адраджэнская, у нічым не прыпамінала літаратурных твораў класікаў беларускай літаратуры, звязаных з „Нашай нівай". Сваёй мяшчанскай, сталічнай тэматыкай уводзіла яна ў цалкам іншы свет тадышняга беларускага грамадскага жыцця, свет практычна ў беларускай літаратуры ў той час невядомы. Стварыўшы яе ў віленскай турме на Лукішках у 1914-1915 гг., аўтар (закончыўшы раней драматычную школу ў Кракаве і музычную ў Варшаве) быў ужо ў той час не толькі журналістам, але і прафесійным акцёрам, і рэжысёрам. З 1904 г. ездзіў ён па Польшчы з вандроўнай тэатральнай трупай, а ў 1910 г. разам з Ігнатам Буйніцкім і Алесем Бурбісам наладзіў у сваім горадзе — Вільні — першы беларускі спектакль. Зневажэнне „нябесных сіл" у рэдагаваным ім раней гумарыстычным часопісе „Перкунас" стала прычынай ягонага турэмнага зняволення на Лукішках. Такім чынам віленскі астрог стаў першым месцам творчай, літаратурнай працы Францішка Аляхновіча.

П'есу аўтар спачатку напісаў на польскай, а пазней пераклаў на беларускую мову, друкуючы яе затым у віленскай газеце „Гоман". Віленскі перыяд жыцця і творчасці пісьменніка быў для Аляхновіча вельмі плённым. У 1916 г. у Вільні арганізуе ён Беларускую тэатральную дружыну, якая 26 снежня ўспомненага года ажыццяўляе пастаноўку п'есы *На Антокалі*. Ягоны драматычны гурток пачынае наладжваць пастаянныя спектаклі і пра яго пачынаюць гаварыць як пра тэатр Францішка Аляхновіча.

У біяграфіі пісьменніка ўражвае тое генетычнае спалучэнне сувязі тэатра з драматургічнай творчасцю, вядомае ўжо са старажытных часоў. Аналіз твора *На Антокалі*, яго наступныя дзве рэдакцыі (1940 і 1942 г.), пацвярджаюць ягоную сувязь з польскай і еўрапейскай драматургіяй.

Як заўважыў Максім Гарэцкі, „Аляхновіч, вырасшы ў сферы нябачнага ўжо для масы, але беспярэпыннага апалячвання, увайшоў у сваю родную літаратуру з творам без характэрных нашаніўскіх прыкмет і матываў. Ён зусім тут спакойны ад адраджэнскай мукі, багата паказаў новую ў літаратуры беларускую сферу, сферу мяшчанскага жыцця. Гэта знак як вырасла адраджэнне".

Умоўна даследчыкі вызначаюць п'есу *На Антокалі* як камедыю — сінтэз бытавой камедыі і вадэвіля, паколькі на кампазіцыйна-сюжэтны яе план паўплывалі як опера з аперэтай, так і балет, пра што сведчаць сімвалічныя фігуры, якія выконвалі ў ёй танец мяшкоў з грашыма, мімічныя і нямыя сцэны. Іх не заўважаем яшчэ ў першай рэдакцыі твора. У шматлікіх выпадках дзеянні ў п'есе суправаджаюцца спевамі і танцамі.

Тэмай трохактавай п'есы, акрамя жыцця віленскіх беларусаў пачатку XX ст., з'яўляецца каханне. Ужо ў першым з іх знаёмімся з дачкой кіраўніка шавецкай майстроўні Вінцэнта Сліжыка — Зосяй і яе каханым — чаляднікам Юзюком Жалейкам. Гэты галоўны матыў твора экспануецца аўтарам на працягу ўсёй ягонай п'есы, пачынаючы ад экспазіцыі, праз завязку, яе развіццё да кульмінацыі і развязкі. Усе іншыя матывы з'яўляюцца ў ёй, як быццам, пабочнымі. Праз прызму суадносін Зосі з Юзюком Жалейкам, а затым з пажылым паштовым чыноўнікам Ігнатам Радзівіловічам — раскрываецца большасць падзей, якія на фоне спакойнага віленскага жыцця тадышняга антокальскага мяшчанства вядуць да іх кульмінацыі і развязкі ў апошнім акце, што праходзіць ужо не на Антокалі, гэта значыць, прадмесці Вільні, але ў іншым цяперашнім квартале горада, размешчаным на правым беразе Віліі — Верках (ад яго на захад).

Ужо ў першым акце не толькі паказаны блізкія, хоць і крыху стрыманыя адносіны Зосі з Юзюком, але разгортванне любоўных сімпатый і падзей у некарысць Юзюка, у сувязі з нечаканай весткай аб раптоўным быццам бы ўзбагачэнні ягонага канкурэнта да рукі Зосі, Ігната Радзівіловіча. Паводле віленскай прэсы, меў ён атрымаць паўмільённую спадчыну ад свайго амерыканскага сваяка — цёзкі па прозвішчу, таксама Радзівіловіча. Вестка гэтая хутка прыводзіць да ягоных заручын з Зосяй.

У другім акце, які гэтаксама праходзіць у хаце Сліжыкаў на Антокалі, Юзюк, даведаўшыся, мабыць, пра шлюбную прапанову Ігната Радзівіловіча, паддаецца адчаю. Закаханы ў Зосьцы, думае пра самагубства. Сястра Міхаліны — жонкі Вінцэнта Сліжыка і маці Зосі, Варвара (у арыгінале Барбара), едучы, выпадкова сустракае свайго швагра і вырашае наведаць сям'ю Сліжыкаў, каб запрасіць іх на рамесніцкую маёўку ў Верках. Пры нагодзе даведваецца аб тым, што Ігнат Радзівіловіч днём раней пасватаўся да яе пляменніцы, Зосьці. Купец Арон, уваходзячы з грамафонам у хату Сліжыкаў і ўбачыўшы атруту ў бутэльцы Язэпа Жалейкі, суцяшаючы, адбірае яе ў яго. Прапаноўвае Юзюку выехаць у Горадню да брата, каб забыць аб прыкрым для яго здарэнні. Раней у хату Сліжыкаў прыходзіць лістанасец і з-за непрысутнасці Язэпа аддае ліст у справе спадчыны Вінцэнту Сліжыку. Уся сям'я збіраецца на маёўку, таксама і Юзюк мяняе сваё рашэнне і замест у Горадню, каб апошні раз перад выездам з Вільні ўбачыць Зоську, збіраецца ў Веркі.

У трэцім акце п'есы падзеі, дагэтуль аднасна статычныя, дынамічна разыгрываюцца ўжо ў Верках. Спачатку аўтар паказвае нам сцэну ў садочку перад рэстаранам, суадносіны яго ўласніка Рафала з п'яным рэпарцёрам Пяровічам, яго ж — з Манькай, да якой заляцаецца, і афіцыянтам. Потым на сцэну ўваходзяць музыкі, а затым у рэстаране з'яўляюцца Сліжыкі з Варварай, Мацеіха з кумамі ды віленскія жабракі. Неўзабаве з'яўляецца і сам Ігнат — адзін з галоўных герояў п'есы. Прачытаўшы ліст ад консула, пападае ў цяжкі псіхічны стан, даведаўшыся, што не з'яўляецца ён сваяком свайго пакойнага цёзкі па прозвішчу — Радзівіловіча з Чыкага. Ягонае ўяўленне пра сваю будучыню, сваё сямейнае шчасце ў адзін момант правальваецца. Мала таго, яго ў адной хвіліне абвінавачваюць у хлусні, як Зоська, так і яе бацькі. Наступае кульмінацыя падзей у адносінах Ігната са Сліжыкамі. Абсяцэненага ва ўсіх, таксама і маральных, адносінах, падтрымлівае толькі Варвара. У 16 з'яве наступае збліжэнне іх жыццёвых пазіцый і яны прыходзяць да высновы, што яны людзі супольнага лёсу. Тое ж самае адбываецца і ў 17 з'яве паміж нечакана прыбыўшым у Веркі Юзюком і Зоськай. У апошняй, 20 з'яве 3 акта даведваемся аб заручынах Варвары з Ігнатам. Такім чынам п'еса заканчваецца шчаслівa для абедзвюх пар. У канцы пераможна гучыць песня Юзюка Жалейкі *Нашто нам грошай вельмі шмат...*, якую падтрымлівае хор.

У п'есе з неабыякой сілай прагучалі тыпова мяшчанскія адносіны ў гэтым грамадскім саслоўі. Пачынаючы драматург бязлітасна расправіўся ў ёй з тымі жыццёвымі фетышамі, якім яно пакланялася і што скажала ўяўленні аб сапраўдных чалавечых каштоўнасцях. П'еса несумненна сваёй мастацкай ідэяй з'яўляецца актуальнай і ў сённяшні час, таму вяртанне Аляхновіча ў гісторыю беларускай літаратуры не з'яўляецца выпадковым. Шмат ягоных твораў нічога не страціла са сваёй актуальнасці дагэтуль.

Максім Гарэцкі — адзін з першых даследчыкаў творчасці Францішка Аляхновіча — высока ацаніў ягоную п'есу *На Антокалі*, хоць крытычна глянуў на яе апераэтачную форму. З псіхалагічнага пункту гледжання, найвышэй ацаніў ў ёй постаць Ігната Радзівіловіча, падкрэсліваючы мяккасць і дабрату яго характару і інстынктыўную ўпартасць. У асобах Вінцэнта Сліжыка і Міхаліны, акрамя тыповых заган, як, між іншым, выпіўка, вылучыў працавітасць беларускага мяшчанства. Зоську ахарактарызаваў як лёгкадушную грамадзянку, самай жа светлай постаццю палічыў шавецкага чаляднікa Юзюка, які ненавідзіць тыя грошы, за якія можна купіць чалавека. Класік беларускай літаратуры падкрэсліў таксама сакавітую замалёўку іншых асоб: п'янюгі рэпарцёра Пяровіча, дабрадзейнага купца Арона, язычлівай Мацеіхі, жабракоў і іншых. Па-мойму, не менш светлай постаццю ў творы з'яўляецца і Арон, які сваімі паводзінамі, магчыма, ратуе жыццё Юзюку Жалейку. У цэлым атрымалася даволі маляўнічая карціна тадышняга віленскага мяшчанства, з усімі яго заганамі, як і дабрадзейнымі рысамі.

Творчасць Францішка Аляхновіча не перастае прыцягваць да сябе як выдаўцоў, паклоннікаў ягонага драматургічнага мастацтва, акцёраў, рэжысёраў, так і даследчыкаў, таму цікавасць да ягоных твораў без ніякага сумнення і надалей будзе расці з кожным годам.

Юрый ТРАЧУК

## Мала дрэў у вёсцы

Зараз няма прыгожых дрэў у вёсцы Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны. Усе вялікія стройныя дрэвы ссеклі. Вядома, не так адразу, але пакрысе. Нават тыя, якія нічым не пагражалі для дамоў. Шматлікія мае аднасяльчане не любяць — па ўсім відаць — перадусім ліставых дрэў. Яны кажуць: а хто будзе восенню лісце зграбаць? Вось у чым справа. Цяпер ліставога дрэўца ніхто не пасадзіў. Сякуць ліпы, вязы, ясені, каштаны. Для чатырох высокіх ды галінастых вязаў ссеклі верхавіны сёлета ў маі. Зараз перад дамамі растуць перш-наперш туі ды елкі. Не красуецца ні адна бярозка. Каб захапляцца прыгожымі дрэвамі, тады трэба ехаць у лес. Вось як!

Тыя асобы зімою снегу таксама не змятаюць з тратуара. А гэта людзі яшчэ не старыя. Па-мойму, яны сталі лянівыя. Уключаюць тэлевізары і ўдзень, і ўвечары ды сядзяць-сядзяць. Ім занятак які, калі не гадуюць ні кароў, ні свіней, ні курэй. Ужо здаўна ніхто нават хлеба не пячэ. А свабоднага часу маюць удоваль.

На сто дамоў, толькі ў дзесяці вяскоўцы зацікаўлены газетамі і часопісамі. Падпіску робіць сем чалавек. Ну „Ніву" з календаром то яшчэ купяць. Яна амаль у кожнай хаце. Новаляўкоўцы гэтак кажуць: „Ніўскі каляндар мусова мець".

Але далей я пра дрэвы ў вёсцы. Маладыя, паверце солтысу вашай вёскі. Паўвека таму паабапал вуліцы якія высокія ды стройныя ліпы, бярозы, вербы, вязы ды ясені раслі! У агародзе маіх бацькоў расла найбольшая ў вёсцы, а то і ў ваколіцы бяроза. Відаць яе было здалёк. Зараз расце яшчэ тоўстаятоўстая вярба, на якую я лазіў яшчэ ў дзяцінстве. Вялікую таўстаствольную вярбу над глыбокім ровам ля ўезда на панадворак дваццаць гадоў таму ссек мой бацька. За вёскай у бок рэчкі Бабраўкі красавалі аграмадныя быццам вежы волхі. Шмат было векавых дрэў. А як цяпер? Мне сумна робіцца на сам успамін.

Пару гадоў таму ў вёсцы пашырылі вуліцу і праклалі тратуар. На абочыне дарогі, не зважаючы на нішто, ссеклі шмат ліп. Некаторыя, перадусім тыя над ровам, вырывалі з пнямі. У снежні 2013 года ў цэнтры вёскі ссеклі шэсць ліставых дрэў. Што ж лісце апала, мабыць таму і не ведалі, якія дрэвы секлі. Але ці толькі з-за таго, што яны штогод восенню скідаюць лісце? У адным выпадку я ў гэтым увераны. Малады здаровы клён рос за плотам і не пад дратамі энергетычнай лініі. А лісця пад ім сёлета была цэлая горба. Клён вясной прыгожа цвіў. Больш не зацвіце. Канец яму прыйшоў гэтай сумнай восенню.

У гэтай справе ёсць і светлы праменьчык. У Новым Ляўкове адзін жыхар прыдбаў сабе міні-парк. Так, так, наперакор усім і ўсяму. У ягоным абгароджаным частаколам бярэзніку прыгожыя сцяжынкі-алейкі ды летам грыбы растуць: баравікі, падбярозавікі і сыраежкі. Гэты гаспадар — вялікі любіцель прыроды. Ён мужчынскі цырульнік, заўзяты рыбалоў-вудзільшчык. Апрача таго ён піша вершы. Чытаў іх на свяце рабочых стараляўкоўскай керамічнай фабрыкі, на якой шмат гадоў працаваў пры доглядзе печаў. Зараз ён пенсіянер-непаседа.

Маю іншыя прыклады на тое, як клапоцімся пра дрэвы. 16 снежня ехаў я адной з галоўных вуліц Семянаўкі. Там зараз ссеклі пяць ліп. Пні ад іх палічыў. Пару гадоў таму ім ссеклі верхавіны. Мелі яны адрасці... Мяне семянаўцы пераконвалі ў гэтым. Ліпы пастаялі пару гадоў, пачалі хварэць ды парахнець (бачыў адзін такі пень) і вось ім канец. У той жа дзень быў я ў Гайнаўцы. У горадзе па вуліцы 3 Мая і па вуліцы Спартыўнай ссеклі тры дрэвы. Асталіся па іх пні і плавінне.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Пішам і марым па-беларуску!

Што такое літаратурны конкурс беларускай паэзіі і прозы?! Якая яго мэта, якія задачы?

Для многіх — гэта чыстая забава, гульня са словам. Гэта часта першыя спробы запісаць свае думкі і пачуцці па-беларуску. З дапамогай прыходзяць настаўнікі, бацькі, старэйшая сястра або бабуля. Наймалодшыя дзеткі найахвотней пішуць пра звяркоў і жывёлак, катоў, сабак, пеўнікаў, вожыкаў. Іх вершаваныя радкі часта напаміналі песні або казкі, запамятаныя з дзяцінства...

Другой, самай папулярнай тэмай з'яўляюцца жыццё і свет. Пра свет пішуць па-рознаму. Дзеці пішуць пра той найбліжэйшы, які бачым за акном. За ім звычайная восень, таму не цяжка здагадацца, што вершы ўзніклі на ўроку напрыканцы верасня або ў пачатку кастрычніка. Там каляровыя дрэвы і бабіна лета або пахмурнае надвор'е з даждом і хмарамі. Дзеці пішуць таксама пра школу, сям'ю, сяброў, Каляды.



**Габрыеля Торка з праваслаўнай школы ў Беластоку**, лаўрэатка другога месца (камісія не назначыла першага месца) захапілася ветрам, які гуляе сярод дрэў. У ім пабачыла жыццё прыроды. Гэта адзін з самых прыгожых вершаў, дасланых на конкурс.

Год таму мы пісалі пра вершы **Магдаліны Бяляўскай з Нараўкі**, якая вачыма ўяўлення пабачыла неіснуючы ўжо царскі палац у Белавежы. Зараз яна марыць пра сонную экскурсію ў Маскву (таксама II месца). Захапленне гісторыяй і геаграфіяй, дзякуючы марам, спрацавала і ў выніку атрымаўся канкрэтны і адначасова паэтычны верш.

Пра магію мараў і пра сапраўднае сяброўства піша **Раксана Канчук з Міхалова** (III месца). Камісія назначыла вылучэнні **Наталлі Васько** і **Кацярыне Мучко з Нараўкі**. Наталля разважае пра сэнс сапраўднага сяброўства, а Кася робіць спробу павязаць лёс чалавека са светам прыроды.

У адпаведнасці з ацэнкай акадэміка-літаратуразнаўцы Янкі Трацяка, рэдакцыя „Нівы" назначыла вылучэнні **Вікторыі Кардзюкевіч з праваслаўнай школы ў Беластоку** (за жывыя дыялогі ў апавяданні „Непаслухмяная Алеся") і **Еве Аврарчук з белгімназіі ў Бельску.** Яе апавяданне „Цені" было самым спелым, кранальным і дапрацаваным творам у першай групе ўдзельнікаў конкурсу. Вылучэнне атрымала таксама **Клаўдзія Сікорская з Міхалова** за верш „Айчына" — ён друкаваўся ў „Зорцы" № 49). Здаецца ўсе ўдзельнікі задаволены — усе яны атрымалі кніжныя ўзнагароды. Асаблівай і незабыўнай узнагародай была сустрэча з паэтам Янам Чыквіным, старшынёй літаб'яднання „Белавежа". Кніжныя ўзнагароды атрымалі настаўнікі, якія падрыхтавалі найбольш удзельнікаў: **Эмілія Грыка з Міхалова, Ганна Кандрацюк і Ліля Тарасевіч з Нараўкі, Іаанна Марко з Беластока.**

Сёлетні конкурс як ніколі быў масавы. У ім прыняло ўдзел 45 вучняў пачатковых школ і 25 асоб дарослых (у гэтай групе было трох ліцэістаў).

Працы ацэньвала міжнароднае журы ў саставе **Надзея Артымовіч, Ежы Плютовіч і Янка Трацяк.** Паколькі вершы і апавяданні будуць надрукаваныя ў „Зорцы", кожны з вас будзе мог пазахапляцца імі і даць ім сваю ацэнку і ўзнагароды.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



## Мара

Я б таксама ў Маскву хацела,
Як мухамор бы пачырванела
На пляцы побач Васілёвай царквы.
Ногі панеслі б па вулках Масквы.
Да Крамля сценаў я хачу даткнуцца.
У Маскве ў сне прачнуцца.
Няма ніякага бар'ера.
І вы павінны мне паверыць.

**Магдаліна Бяляўская**,
*ПШ імя Аляксандра Валкавыцкага ў Нараўцы*



## Вецер гуляе паміж дрэвамі

Кожны дзень бачым,
як вецер гуляе паміж дрэвамі.

Зойдзем у лес — а там
вецер шуміць. То ціха. То гучна.

З дрэваў ападаюць лісты,
бо вецер іх збівае.

Любіш вецер? Я люблю. А ведаеш чаму?
Бо тады бачым як жыве прырода.

**Габрыеля Торка**,
*Школа свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*



# Цені

*(працяг з 51 н-ра)*

Але пасля... Пасля цені, непрыкметна, пачалі расці, пачалі карміцца кожным дрэнным дыягназам, кожным дрэнным вынікам медыцынскага аналізу, сумнымі думкамі, слязьмі, сумам, прападаючай надзеяй. Часам цені слабелі, калі да Лаўры і Міхася вярталіся вера і сіла, але гэтага было замала. Неўзабаве дрэнныя духі выраслі да такіх памераў, што проста пачалі над імі панаваць. Ужо немагчыма было не думаць пра іх прысутнасць, не ўспамінаць гэтай з'явы, бо яна ўжо стала часткай іх. І нахабна смяялася ўголас, сціскаючы іх штораз мацней.

Лаўра мела надзею, што гэтыя абдымкі іх ніколі не задушаць.

Смерць Міхася раўнялася са смерцю нейкай часткі Лаўры.

Дзяўчына ціха ўздыхнула, адвярнула вочы ад сумнага краявіду Беластока, які мільгаў за акном, і памаленьку ўстала, сціскаючы малыя, худыя і касцістыя пальцы на раменьчыку сваёй школьнай сумкі. Праціскаючыся за пасажырамі стала кіравацца да выхаду. Апошні прыпынак, яе прыпынак. Ужо праз некалькі хвілін ударыла ў яе халоднае і непрыемнае паветра. Ахутваючыся шчыльна курткай, светлавалосая накіравалася ў бок школы, успамінаючы план урокаў і адганяючы ад сябе думкі пра Міхася і ўсе роздумы аб смерці. Гэта не быў добры час і месца. У школе трэба было рабіць выгляд, што ўсё ёсць «куль».

Шкада толькі, што зусім не было «куль».

Сем урокаў, потым хуткі абед і Лаўра зноў самотна ішла ў напрамку шпіталя, пакідаючы за сабой вясёлыя, беструрботныя групкі дзяцей, якія ішлі ў бок магазінаў. Ну, ясна, сёння ж пятніца. Калісьці пятніцы яна і Міхась праводзілі ў кегельбане або ў бібліятэцы. Цяпер, аднак, у пятніцы дзяўчына сядзела з кніжкамі (яго любімымі, вядома) у безнадзейна гнятучым белым шпітальным пакоі, чытаючы цэню свайго сябра. Так, хвароба выцягнула з Міхася вялікія пласты аптымізму, раней такія багатыя ў яго, пакідаючы яго з пустэчай у сэрцы і душы. Пагасіла таксама натуральны бляск блакітнай вясёлкавай абалонкі ў вачах сына пані Агаты і пана Дарка. Брунет быў цяпер вечна змучаны, змарнелы і ціхі, але меў яшчэ ўсё нешта з даўняга сябе.

Сілу.

Лаўра ціхенька ўсміхнулася сама сабе, рассеяная, у апошнюю хвіліну заўважыла, што мусіць спыніцца перад пераходам праз вуліцу, — было чырвонае святло. Стоячы паслухмяна, усё яшчэ несвядома ўсміхалася.

Заўсёды захаплялася сваім сябрам, за яго волю змагання і, здаецца, за бязмежную сілу, якую бачыла ў яго кожны дзень. Не ведала, ці яна так бы змагла. Але гэта быў якраз Міхась Левандоўскі. Ён памагаў ёй і падтрымліваў яе столькі гадоў, цяпер яна хацела яму аддзячыць. Яна кахала яго як брата, была адзінай асобай, якая яго разумела і проста не магла яго страціць. Ён быў ёй патрэбны, бо быў часткай яе сэрца, часткай яе душы, часткай яе. Быў неадлучным элементам жыцця дзяўчыны, без якога было яно пустое і шэрае.



Няпоўнае.

Зялёнае святло загарэлася праз некалькі хвілін і Лаўра перайшла на другі бок вуліцы. Да шпіталя было ўжо толькі некалькі соцень метраў.

Паліклініка прывітала яе галоўным калідорам поўным людзей і натоўпам перад рэцэпцыяй. Бландзінка прывіталася ціхенька са старэйшай жанчынай, якая стаяла за прылаўкам і хуценька падышла да ліфта. Націснула кнопку і чакаючы ліфта расшпіліла куртку, зняла з шыі аранжавы шалік і ўпіхнула яго ў сумку, а дастала з яе гігіенічныя накладкі на боты і фольгавы плашч. Праз хвіліну цяжкія дзверы адчыніліся перад ёй. Лаўра ўвайшла ўсярэдзіну, націснула патрэбную кнопку і аперлася аб халодную сцяну. Краем вока бачыла сябе ў люстры на супрацьлеглай сцяне, але раптоўна апусціла вочы — не хацела на сябе глядзець. Выгляд самой сябе — непрысутныя сінія вочы, бледны пахудзелы твар яшчэ раз балюча ўсвядомілі, што ўсё змянілася. Не хацела цяпер пра гэта думаць. Ёй трэба было выпрастацца, усміхнуцца і ўвайсці ў пакой нумар 317 — быць апорай, а не цяжарам. Так разважаючы апранала шпітальны плашч.

Калідор на чацвёртым паверсе быў таксама поўны людзей. Лаўра асцярожна, але хуценька прабівалася праз натоўп. Будучы штораз бліжэй убачыла, што пры ўваходзе ў залу нумар 317 круціцца многа людзей у белых фартухах. Сэрца дзяўчыны сціснулася. Яна пачала бегчы, распіхвала людзей, адчувала ўсім сваім целам, што здарылася штосьці страшнае... Але ўсёй сілай волі выгнала з галавы чорныя думкі, стрымлівала слёзы, што збіраліся пад павекамі. Шалёна змагалася з рукамі, якія заціскаліся і злавеснымі галасамі вакол сябе.

— Лаўра, дарагая... — пачала медсястра, калі дзяўчына хвіліну пазней спынілася побач яе, стараючыся ўбачыць паміж спінамі некалькіх дарослых, што адбываецца ў зале Міхася. Ласкавы жаночы голас дайшоў да яе толькі праз некалькі хвілін.

— Што з Міхасём?! — спыталася спалоханым дрыжачым голасам, раптоўна спаглядаючы на рыжавалосую таўставатую жанчыну.

— Ох! — жанчына цяжка ўздыхнула, убачыўшы страх у вялікіх сініх вачах дзяўчыны. — Памёр у 14:33.

Лаўра адчула, што зямля расступаецца пад ёй, а цень, які прыходзіў да яе ў сонных кашмарах, цяпер душыць і накрывае яе. Пачула яго холад ва ўсім целе, у вушах чула агідны гук разрыванага болем сэрца. Свайго сэрца. Вобраз перад вачыма расплыўся, а з грудзей вырвалася рыданне. Упала бяссільна на калені, моцна сціскаючыся, як бы бароначыся перад гэтым, што здарылася, перад чым схавацца і ўцячы не магла.

Дзе ты цяпер, Міхась?

**Ева АВЯРЧУК,**
***Бельск-Падляшскі***

# Ворагі

Ідзі найцяжэйшай дарогай,
Там ты не спаткаеш ворагаў...
Ідзі далей,
Нягледзячы на іх!
Думай пра сябе,
А не пра іх!
Цяпер лічышся ты,
І толькі ты!
Усміхайся найчасцей,
Ворагі таго не любяць.

**Наталля Васько,**
*Гімназія імя Тамары Саланевіч у Нараўцы*





# Лісты

Чалавек,
блудзіць у пагоні дня.
Над намі асеннія хмары,
А вецер зноў іх гоніць і гоніць.
Лісты азДабляюць пусты лес.
Гэта яны змяняюць свет.

**Кацярына Мучко,**
*ПШ імя Аляксандра Валкавыцкага ў Нараўцы*

# Польска-беларуская крыжаванка № 52

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 48
Ява, склад, Іра, спор, ар, парада, парасон, амяла. Выспа, парк, мора, раса, дом, гара, дарога. Узнагароды, *беларускія фільмавыя анімацыі*, выйгралі **Лукаш Новік** з Нараўкі, **Эмілія Раманчук, Матэвуш Бярэшчук, Лукаш Дудзіч, Ганна Годзінская** з Бельска-Падляшскага, **Дар'я Кулік, Наталля Сцепанюк** з Орлі. Віншуем!






*Вера МАСАЙЛА*



## Надзея

*У павуцінні дагараючага лета*
*заіскрылася сляза*
*Хаваўшаяся за краявідам сонца*
*пакрылі маршчынамі тугі*

*Ззябнутыя плечы сосен*
*перасталі чакаць*
*зязюлі-варажбіткі*
*ля ракі прыгажуня-рабіна*
*стала таргаваць з ветрам*
*сваімі караламі*

*Адзін шарык прабаваў*
*упрыгожыць сон продка*
*ў забытай магіле*

*Змуршэлы прыдарожны крыж*
*пахіліўся ад цяжкасці*
*чалавечага лёсу*

*У бальніцы нарадзілася дзіця —*
*калодзеж журбы праваліўся*
*ў нябыт!*

*

*Утопленыя ў туманы лугі*
*пахнуць сумотай*
*Каровы заспаныя галовы*
*хаваюць у раку*
*Пакрытыя шэранню раніцы*
*цiснуцца да вогнішча*
*Доўгія малебны сноў*
*плывуць цераз ночы*
*як лодкі*
*Побач няструмана плыве час*
*Не шкадуй ападаючых з дрэў*
*асенніх абманаў*
*Як небам пройдуць халады*
*і над лугі з пахам чаромхі*
*і песняй жаваранка*
*прыляціць новае шчасце*
*Трэба толькі заставіць на яго*
*густую сетку*

## Сон бабулі

*Ля печкі задрамала*
*бабуля*
*З клубка яе дарог*
*выпаў схаваны час:*
*На парозе лёсу Янка*
*ў бліскучых афіцэрках*
*з букетам васількоў*
*у руках*
*Галасістая гітара*
*на вясковай гагатусе*
*На снягу дарога з попелу*
*ад яго да мае бронкі*
*Броначкі ўжо няма*
*яна сцеражэ кулікоў*
*на Андрэевай клуні*
*У сяле хлапцоўская*
*абедня*
*Чужыя хлопцы на вясковай*
*патанцоўцы*
*... Ёсць і Янка...*
*— свае прыходзяць у хаты*
*па дзяўчат*

*У адзінакавых хустках*
*едзем з дружкай*
*жалезняком*
*прасіць на вяселле*
*Ідзем босыя да споведзі*
*з новенькімі „танісоўкамі”*
*ў руках*
*Перад царквой*
*пустыя ўжо рукі*
*папраўляюць на галаве*
*адзінакавыя хусткі*
*Да глыбокага вечара*
*газнік забаўляецца*
*з папяровым павуком*
*Сундук хавае*
*апошнія ручнікі пасагу*

*За акном выстрал*
*Гэта ўпаў кій*
*і спалохаў сон.*
*Праўнучак тузаецца,*
*каб падаць яго бабулі.*

*Славамір КУЛІК*



## Танец дурня

*Танец — якое гэта дзіва?*
*Ну амаль усе калісь танцуюць*
*Хаця б на школьным балі.*
*А якая маладая пара не танцуе?*

*Драбіна — звычайны патрэбны прадмет.*
*Без яе няма ніводнай пабудовы.*
*Драбіну кожны зробіць*
*І кожнаму яна патрэбна.*

*Я звычайны чалавек,*
*Жыву як кожны.*
*Адно люблю, другое не.*
*Я не дзіва — праўда?*

*Вось і здарылася аднойчы дзіва.*
*Захацелася мне, старому дурню...*
*Рашыў я спалучыць танец і драбіну*
*Ну і сябе абавязкова ўключыць у гэта.*

## Там

*Там дзе мяне не было*
*Ніхто па мне не тужыць*
*Там растуць непасаджаныя мною ружы*
*Паветра чыстае ад маіх нядыхаў*

*Там я не нарадзіўся і там не жыву*
*Тужу за блакітамі неадкрытага неба*
*Хачу спрабаваць іхняга хлеба*
*А можа пасля смерці туды павярну?*

## Акно

*Стаю ў акне і бачу прыгожы свет*
*На фоне неба, не пустыня*
*У далі лясы, палі і рэкі*
*І дарога, дарога да вёскі*

*Не адно ў свеце акно*
*У бальніцы акно жыцця*
*Ад яго сіроты пачынаюць жыццё*
*Яно дае шанс — апошні шанс*

*Ёсць маленькае акно ў неба*
*З турэмнай кратай*
*Бог толькі ведае колькі разоў*
*Было апошнім відам*

*Маё акно шырока адкрыта*
*На людзей, на прыроду*
*На прывабную далячынь*
*Акно паэта поўнае аптымізму*

## Восеньскі канцэрт

*Надышла восень*
*Бардаўская восень*
*Спяваю пад струны ветру*
*На фоне палітры жаўценяў*

*У галаве задума*
*Лістападаўскі глыбокі сон*
*Кожная галінка як струны гітары*
*Увесь свет як канцэртная зала*

*Мартына Ева ЛЕАНЕЎСКАЯ*


Фота Малгажаты Фалтыноўскай

## Дом

*Дом ахоплівае радню,*
*Дух продкаў захоўваюць*
*Яго падрубы і сцены.*
*Пільнуе думак і планаў.*
*Калі застанецца адзін,*
*Пільнуе яго ікона.*

## Плот

*Плот акольвае сваё,*
*Нават калі ён павалены,*
*Паказвае межы.*
*На плот ўзбіраецца кот.*
*Ён сочыць за тым,*
*Каб чужое не ўвайшло*
*На падворак.*
*Перадусім нябачнае.*

## Сад

*Сад жыве, перш за ўсё тады,*
*Калі адышоў той, хто яго пасадзіў,*
*Падтрымліваючы яго жыццё.*
*Памятаюць чалавека крона і корань.*
*А плод спеліцца для ўнукаў і праўнукаў.*
*І для чужых.*

## Студня

*Падземная крыніца далей падае ваду,*
*Хоць гаспадыня не прыйдзе з вядром.*
*Жораў цэліць у неба бадзёра.*
*Вецер іграе на ім рэквіем вёсцы,*
*Што прыціхла ляжыць ля зрубаў.*

## Сабака

*Не ланцуг цягне яго на могілкі,*
*Дзе пад копчыкам зямлі схаваны*
*Цяпло і ласка. Або выспяткі і ўдары*
*Ды пустая міска. Памяць сабакі*
*Кароткая. На ўсё жыццё і рай.*

# Усходняе суседства (3)

**5 снежня адбыліся ва Універсітэцкай бібліятэцы імя Ежы Гедройца ў Беластоку міжнародныя дэбаты на тэму „Беларусь, Літва, Польшча і Украіна — поспехі, няўдачы і перспектывы суседства — палітычныя, гаспадарчыя, культурныя і міжчалавечыя адносіны, узаемныя міфы і стэрэатыпы".**

Прафесар **Арунас Гумуляўскас** з Шаўляйскага ўніверсітэта наштрыхаваў напрамкі замежнай палітыкі Літвы ва ўмовах глабалізацыі. Але надта агульна, перайшоўшы да папулярнага ўспрымання паўднёва-заходняга суседа ў таго ж папулярнай іпастасі. У наш час мяняюцца азімуты грамадскага зацікаўлення, людзі становяцца больш практычнымі. Таму вялікая палітыка, напрыклад, Усходняе партнёрства, не выклікае ў Літве істотных эмоцый. Праводжання ў апошні час апытанні наконт важных асабістасцей літоўскай мінуўшчыны паказваюць, што пастаянна падае рэйтынг пайшоўшага ў Польшчу Ягайлы, затое расце ўвага літоўцаў да свайго вялікага гаспадара Вітаўта. А палякі, якія ў мінулым задавалі ход літоўскім дзяржаўным справам, успрымаюцца ў Літве без асаблівай павагі. Дакладчык, які ў час аднаго навуковага выступлення ў Польшчы быў названы прадстаўніком непрыязнай дзяржавы, прывёў адзін з папулярных у Літве анекдотаў: „Радзільны дом, у прыёмнай чакаюць тры свежыя бацькі: літовец, паляк і мурын. Выходзіць лекар і абвяшчае, што роды прайшлі нармальна і можна забіраць сваіх дзяцей. Першым пабег літовец, ухапіў мурынятка і выносіць. Мурын пратэстуе: ты ж ухапіў маё дзіця. Літовец: а мне абы толькі не ляляча...".



Прафесар **Кшыштаф Бухоўскі** з Беластоцкага ўніверсітэта расказаў пра ўзаемаадносіны прыбалтыйскіх краін, якія толькі з вонкавага пункту гледжання выглядаюць сходна. Зараз пасля адраджэння іх незалежнасці супрацоўніцтва было цеснае, яднала іх мацаванне тае незалежнасці, але з ходам часу кожная з дзяржаў кіравалася на ўласныя інтарэсы, якія не заўсёды супадалі з інтарэсамі суседзяў. Першыя трэшчыны паявіліся ўжо ў 1993 годзе, калі савецкая армія першай пакінула Літву. Пазнейшы прыход посткамуністаў да ўлады ў Літве насцярожыў латышоў і эстонцаў. Далей Літва наблізілася да Польшчы, Эстонія да Фінляндыі. Эстонія настойвала на ўваход у Еўрасаюз, калі Літва цікавілася ў першую чаргу ўдзелам у НАТА. Праект новай атамнай электрастанцыі ў Літве таксама халодзіць узаемныя адносіны.



Доктар **Аркадыюш Чволэк** з Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні закрануў беларуска-літоўскія адносіны. Літва адносіцца да Беларусі інакш, чым іншыя еўрасаюзныя краіны, даволі мякка ставячыся да пануючых там грамадскіх парадкаў і становяча ставячыся да ўзаемнага эканамічнага супрацоўніцтва, якое пастаянна расце. Буйнейшыя літоўскія бізнесмены моцна заангажаваныя ў беларускую эканоміку.



**Ева Гаяўскайтэ** з Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Каўнасе сказала пра асновы стратэгічнага партнёрства Літвы, Польшчы і Украіны. Гэтае партнёрства рознае — паміж Украінай і Літвой яно толькі рытарычнае. Стратэгічнае партнёрства Украіны з Польшчай нясе апошняй шмат пагроз: гэта і кантрабанда тавараў ды людзей, і супрацоўніцтва ўкраінскіх спецслужб з расійскай разведкай, і іншыя фактары. Украіна ў гэтым ракурсе разглядаецца як буфер вонкавага ціску Расіі. Літве, як малой дзяржаве, трэба шукаць стратэгічнай апоры ў больш магутнага партнёра.



Доктар **Тамаш Блашчак** з Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Каўнасе расказаў пра адносіны Літоўскай Рэспублікі да літоўскай меншасці ў Польшчы.



Прафесар **Яўген Міранovіч** з Беластоцкага ўніверсітэта гаварыў пра ўкраінска-беларускія і ўкраінска-польскія адносіны пры прэзідэнтуры Віктара Юшчанкі. Нядоўга пасля ўступлення на прэзідэнцкі пост Украіны Віктар Юшчанка паехаў у ЗША і там з Джорджам Бушам падпісаў дэкларацыю пра пашыранне свабоды ў Беларусі і на Кубе. У 2006 годзе ў Беларусі адбыліся чарговыя прэзідэнцкія выбары, пасля якіх краіна была абкладзена рознымі еўрасаюзнымі санкцыямі. Віктар Юшчанка быў супраць такіх мер. Ён, як мабыць ніхто іншы ў Еўропе, заўважыў выразныя трэшчыны ў беларуска-расійскіх адносінах. З таго часу інтэнсіфікаваліся беларуска-ўкраінскія эканамічныя кантакты, дасягаючы свайго апагея ў 2009 годзе, калі Юшчанка сустрэўся з Лукашэнкам у Чарнігаве. Дагэтуль усе шляхі перадачы энергетычных рэсурсаў пралягалі цераз абедзве краіны ў шыротным, г.зн. усходне-заходнім напрамку, а яны рашылі дадаць да таго яшчэ мерыдыянны напрамак, з далучэннем да гэтага Літвы. Была думка пра пабудову электраліній, аўтастрады ад Чорнага да Балтыйскага мораў ды падобнай чыгуначнай лініі. Для Беларусі важным было выкарыстанне нафтаправода з Адэсы ў Броды для перапрацоўку венесуэльскай ці азербайджанскай нафты, але па сутнасці Лукашэнку гэтыя праекты былі патрэбны для таргоў з Расіяй. Змена ўлады ў Кіеве скасавала гэтыя праекты. Польскія палітыкі ў той час намагаліся прыцягнуць Украіну ў бок Еўрасаюза. Але клопат быў з эканамічнымі сувязямі. Украіна прымала на сябе транзітную ролю ў передачы энерганосьбітаў у Еўропу, яна ў пачатку самастойнасці вялікім коштам пабудавала згаданы нафтапровод з Адэсы ў Броды, затое ўсе чарговыя польскія ўрады далучаліся да таго праекта толькі дэкларатыўна, не праводзячы чарговага яго адрэзка на захад. Тагачасны аб'ём замежнага гандлю Украіны з Польшчай быў парытэтны такому ж гандлю з Беларуссю. Польскія інвестыцыі на Украіне — сімвалічныя; не большыя і ўкраінскія ў Польшчы. З прыходам на прэзідэнцкі пост Віктара Януковіча пайшоў курс на г.зв. эканамічны прагматызм. У сваім інаўгурацыйным выступленні назваў ён шэраг важных для Украіны эканамічных партнёраў, але Польшча ў іх ліку не апынулася. Дзяржаўныя інтарэсы Украіны бачаныя з Кіева пайшлі ўразрэз з польскім пунктам іх бачання. Польшча ставіцца да ўсходніх суседзяў у ролі „старэйшага брата", а гэта з тамашняга пункту гледжання — гратэскнае. Польская палітыка апіраецца на экспарт ідэалогіі, якую суправаджае ігнаранцтва і адсутнасць эканамічнай падтрымкі. Напрыклад, неўзабаве наша МЗС ладзіць канферэнцыю п.з. „Польскія архівы на Усходніх Крэсах"; такі загаловак для сённяшніх грамадзян Беларусі ці Украіны — абразлівы. Інакш ладзіць сваю палітыку Нямеччына: у 1990-х гадах нямецкія вучоныя з'ездзілі Усходнюю Еўропу, а сёння, для прыкладу, амаль усю тамашнюю харчовую прамысловасць вядуць немцы. Пры Юшчанку абарваўся гандаль Украіны з Усходам, дзе традыцыйныя ўкраінскія рынкі збыту. Зварот Юшчанкі ў бок Еўропы быў зваротам аднабаковым: Еўропа не была зацікаўлена Украінай. Юлія Тымашэнка сядзіць цяпер не за газавую дамову з Расіяй — ейныя гаспадарчыя дзеянні прынеслі вялікія страты блізкім Януковічу ўкраінскім алігархам... І Беларусь таксама падыгрывала свае гульні з Еўропай, адводзячы апошняй ролю аргумента ў таргах з Расіяй. Польшча дамагалася ад Еўрасаюза, каб нешта зрабіць на Усходзе. І альянс становіцца паставіўся да гэтых захадаў: калі ласка — дзейнічайце. І на Усходняе партнёрства ЕС выдзеліў у дваццаць разоў менш сродкаў чым на партнёрства з Паўночнай Афрыкай; гэта, па сутнасці, толькі на візіты і канферэнцыі...



Доктар **Бэата Гаворка-Складанэк** з Беластоцкага ўніверсітэта сказала пра прыярытэты польскай палітыкі адносна Украіны і Беларусі. Прыхільная да Беларусі палітыка Варшавы змянілася з прыходам Аляксандра Лукашэнкі на пост прэзідэнта Беларусі. Польшча выказвае шмат засцярог да ягонага ўнутрыпалітычнага курсу. З уваходам у еўрапейскія структуры Польшча ў адносінах да сваіх усходніх суседзяў займае ўяўную пазіцыю ўзорнага эталона, з якога яны павінны браць прыклад. Польшча ўяўляе сябе місіянерам дэмакратыі на Усходзе. Але вось паводле ацэнак незалежных замежных назіральнікаў, напр. Freedom House, рэйтынг Польшчы ў галіне дэмакратычных стандартаў не надта высокі.



Дацэнт **Наталля Раманюк** з Усходнееўрапейскага нацыянальнага ўніверсітэта Лесі Украінкі ў Луцку сказала пра праблемы дзяржаўнай мяжы ва ўкраінска-беларускіх адносінах. Украіна мае праблемы з вызначэннем марской граніцы: размежаванне мора з Румыніяй вырашыў міжнародны арбітраж, а пытанне граніцы з Расіяй у Керчанскім праліве астаецца нявырашаным. З Беларуссю справа выглядае адносна нескладана, аднак і тут патрэбныя дакладныя рэгуляцыі, беручы пад увагу пранікание цераз граніцу часта непажаданых аб'ектаў, у тым ліку папяросаў, наркотыкаў і не заўсёды сацыяльна пажаданых мігрантаў. Сучасная граніца выконвае так кантактную, як і бар'ерную функцыі.



Прафесар **Яўгенія Ціхамірава**, таксама з Універсітэта Лесі Украінкі з Луцка, сказала пра еўрарэгіёны на граніцы Украіны з Расіяй. Звярнула яна асаблівую ўвагу на стаўленне да пытання інтэграцыі на ўзроўні грамадскай думкі ў згаданым абшары. І вось менавіта каля сямідзесяці адсоткаў апытваных грамадзян Луганскай вобласці на ўсходзе Украіны лічыць украінска-расійскую мяжу непатрэбнай; шматлікім тамашнім людзям, якія ідэнтыфікуюць сябе савецкімі грамадзянамі, яна з'яўляецца папросту завадай паміж „сваімі". І вось такое стаўленне генеруе скептычнае стаўленне актуальнай украінскай улады да еўраінтэграцыі.



Доктар **Аксана Войцюк** з Беластоцкага ўніверсітэта расказала пра палітыку Еўрасаюза да Украіны. Яна, дарэчы, абумоўлівалася і стаўленнем улад у Кіеве. Прэзідэнт Леанід Краўчук „хадзіў між кроплямі дажджу" — ён стараўся добра ставіцца да ўсіх выклікаў. Стаўленне да Еўропы Леаніда Кучмы было супярэчлівае, затое Віктар Юшчанка рашуча заявіў пра еўрапейскі напрамак Украіны. Цяперашнія падзеі ва Украіне датычаць агульначалавечых вартасцей, а галоўным чынам патрабавання грамадскай справядлівасці.



Прафесар **Багдан Гальчак** з Зялёнагурскага ўніверсітэта разважаў пра дэфініцыю Крэсаў, а доктар **Васіль Бусленка** з Універсітэта Лесі Украінкі з Луцка гаварыў пра адносіны ўлады і апазіцыі да еўраінтэграцыйнага пытання на прыкладах Польшчы і Украіны.

**Назар Міхалюк** з Усходнееўрапейскага нацыянальнага ўніверсітэта Лесі Украінкі ў Луцку прывёў кароткі параўнаўчы аналіз грамадзянскіх супольнасцей Польшчы, Беларусі і Украіны. Тут, у агульнасці, найлепш справа выглядае ў Польшчы, а найгорш у Беларусі, хаця ў некаторых ракурсах здараецца наадварот. Таксама, як сказаў **Рафал Мейсак** з Беластоцкага ўніверсітэта, некарысна бачыцца Беларусь вачыма падляшскіх самаўрадаўцаў: для самаўрадавых кантактаў Беларусь стварае па ўсіх разрэзах найбольшыя бар'еры — усюды большыя чым Літва, Украіна ці Расія.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Першы навакрынскі вечарок

Гарбата з сапраўднага самавара, колішнія песні і старыя майсы. Між іншым такі пачастунак сваім гасцям падрыхтавалі арганізаторкі „Шэрай гадзіны пры коміне". Гмінны асяродак культуры ў Крынках разам з публічнай бібліятэкай і культурным аб'яднаннем „Тэрра інкогніта" наладзілі мерапрыемства, якога яшчэ тут не было. «Гэта спроба, пабачым ці прыймецца», — гаворыць дырэктарка Гміннага асяродка культуры Альжбета Чарэмха. Спадарыня Альжбета, як і дырэктарка бібліятэкі Люцына Юркевіч — народжаныя акцёркі. Спантанна, без ніякіх рэпетыцый прадставілі забаўныя сцэнкі з жыцця вясковых жанчын. У прадстаўленні прынялі ўдзел таксама шмацяныя дзед і баба Яўхімавыя, уласнаручна падрыхтаваныя імі. Да слёз разбавілі яны сабраных у глядзельнай зале каўказскай сінагогі гледачоў. А гэта быў толькі пачатак поўнага ўражаннаў вечара, суфінансаванага Лакальнай групай дзеяння „Татарскі шлях" у Саколцы.

— Мы хацелі, каб людзі прынялі актыўны ўдзел у гэтай сустрэчы. „Шэрая гадзіна" з'яўляецца заменай для штогод арганізаваных тут „Музычных Анджэйкаў", — гаворыць спадарыня Альжбета.

— Заадно гэта нашая, старая традыцыя, характэрная не толькі наваколльнай вёсцы, але таксама Крынкам, — тлумачыць спадарыня Люцына. — Свабодная ад палявых прац восеньска-зімовая шэрая гадзіна была назначана для адпачынку і сямейнага жыцця. Доўгія, цёмныя вечаркі інтэгравалі амаль цэлую вёску.

Сабраныя ў адной хаце маладыя дзяўчаты працавалі і гулялі да позняй пары, толькі тады маглі сабе на такое дазволіць. Хлопцы, у асноўным, перашкаджалі. Бывала, упусцяць вераб'ёў альбо пеўня і давай раскідаць пер'е па хаце.

— Мая баба, Аляксандра Калінская, таксама забірала мяне на вечаркі, — успамінае спадарыня Альжбета. — Гэта было на крынскай Кальманшчыне, дзе жыло многа Калінскіх. З лустай пасыпанага цукрам чорнага хлеба саджала мяне на прыпечак, каб спакойна заняцца вышыўкай, лушчэннем гароху ці фасолі. А я з разяўленым ротам слухала ўсялякіх распавяданых тады гісторый і песень. Пер'я дзерці сёння не будзем, бо з ім, звычайна, не справімся, — гаворыць спадарыня Альжбета, — але зварыць і з'есці не паляниемся.

Суседка спадарыні Альжбеты, Люба Грыбок, народжаная ў далёкай Башкірыі, пачала кулінарны паказ з чыбурэкаў і салата з морквы. Тонкае цеста начынялі мясным фаршам так жанчыны, як і прысутныя на гэтым мерапрыемстве мужчыны. Так склалася, што ў адроджаных вечарках мужчыны сталі раўнапраўнымі і паўнавартаснымі ўдзельнікамі. Былі яны заняты не свавольствамі, але адказнай працай. Менавіта мужчыны справіліся з абслугай дзевятнаццацівечнага самавара, які цэлы вечар абаграваў сабраных свежай, араматнай гарбатай з малінавым джэмам. Малінамі шмаравалі таксама свежа спечаныя халкі. Іх аўтар, крынскі пекар Генрык Кузьміцкі стаў галоўным героем вечарыны. Ад яго можна было даведацца сакрэтаў вырабу добрага, дражджовага цеста, а таксама спрабаваць халкапляцення.

Сяброўка аб'яднання „Тэрра інкогніта" Анна Горчак угасціла прысутных традыцыйнымі хрустамі. Але не аўсяны кісель са шкваркамі выклікаў, мабыць, найбольш рознагалосся. Амаль усе помнілі з дзяцінства кіслы смак і моцны пах зваранага аўса. Есці яго калісь звычайна прымушалі, таму з цягам часу кісель знік з мясцовага меню. Да вялікага гаршка з кісялём падышлі, мабыць, усе ўдзельнікі вечарка. Ім цікава было ўспомніць смак дзяцінства і паспачуваць непераборлівым продкам. Аказалася, што добра звараны кісель гэта вялікае майстэрства. Спадарыня Анна доўга рыхтавала гэтую традыцыйную страву. За перамалочаным аўсом ездзіла ажно на шчасновіцкі шляхецкі хутар. Першая спроба пайшла ў кусты. З-за кепскай прапорцы вады кісель не згусцеў. Другі падыход амаль удаўся. Амаль, бо паявіліся у ім камякі. «Каб іх не было, трэба кісель вельмі хутка мяшаць у час варэння, — навучаная досведам аб'ясняе Анна Горчак. — Трэцяга падыходу рабіць ужо не было калі».

У час рыхтавання страў і пасля за супольным, багата накрытым сталом не забракла жартаў і старых добрых майсаў. Майсамі звалі ў наваколлі гісторыі з памежжа рэчаіснасці і фантазіі.

Адну з іх пра тарфянікі ў Лапічах распавяла сабраным радавітая лапічанка Люцына Юркевіч. Гісторыя, якую перадала ёй баба Тэкля, пачыналася так:

— Ішоў аднойчы лапіцкім балотам чалавек. Убачыў ён бярозу. «Колькі з яе дрэва на зіму магло б быць, а колькі венікаў», — падумаў. Забраўся яе сячы. Тут бяроза прамовіла людскім голасам: «Не рубай мяне, буду табе шумець песні, напаю сокам». Мужык усё роўна на дрэва палакоміўся. Тады бяроза параіла мужыку перакапаць балота, не чапаючы яе карэнняў, высушыць і паліць гэтым у хаце. Так узніклі славутыя лапіцкія тарфянікі.

На першых навакрынскіх вечарках не забракла і спеваў так у выкананні „Заранніцы" і „Заранкі", як і ўсіх сабраных за вялікім сталом. Атмасфера мерапрыемства паспрыяла сутыкненню з уласнай тоеснасцю. Успаміналіся гісторыі, песні, смакі, але таксама і мова, якая, хаця сарамлівая, але дамінавала ў кантактах паміж прысутнымі. Засталося верыць, што вечаркі ўпішуцца ў культурны ландшафт Крынак побач з зімовым мясаедам і вясеннім валоканнем.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# www.barysau.by

Барысаў ЗРОБІМ ЛЕПШ!

Барысаў — старажытны горад у Мінскай вобласці. Ён, канешне, па-свойму ўнікальны, але як і ўсе беларускія гарады цалкам зрусіфікаваны. Аднак гэтае антыбеларускамоўнае стаўленне дзе-нідзе, але дае слабіну, і таму з'яўляюцца ў інтэрнэце сайты, прысвечаныя Барысаву, цалкам на беларускай мове. Адным з такіх з'яўляецца сайт, які месціцца па адрасе **http://barysau.by** і носіць назву „Барысаў. Навіны рэгіёна, карысная інфармацыя".

Кім быў створаны гэты сайт і калі — непасрэдна невядома. Аніякіх звестак аб стваральніках і ўладальніках яго вы не знойдзеце. Адзіная інфармацыя такога кшталту пададзена ўнізе цэлага выяўлення, дзе пазначаны год з'яўлення сайта ў інтэрнэце — 2013. Пры гэтым невядомыя ўладальнікі папярэджваюць, што „выкарыстанне матэрыялаў **barysau.by** ў камерцыйных мэтах без пісьмовага дазволу рэдакцыі не дазваляецца". У той жа час аніякай кантактнай інфармацыі на сайце не знайсці. Таму, да каго звяртацца за дазволам і ў які спосаб, невядома. Чыста беларускі чыноўніцкі падыход!

Праўда, неразмяшчэнне звестак пра кантакт і ўладальнікаў, гэта, праўдападобна, адзіны недахоп барысаўскага сайта. У астатнім ён вышэй за ўсе пахвалы. Папершае, сайт пастаянна абнаўляецца, таму на ім лёгка знайсці самыя апошнія навіны, якія не з'яўляюцца перадрукоўкай з агульнабеларускіх рэсурсаў, але тычацца выключна Барысава і яго наваколля.

Што да будовы сайта, то ён падзелены ўверсе на дзве часткі, а ўнізе на тры. З левага боку месцяцца выйсці на шматлікія рубрыкі. З левага — навіны, якія да таго ж аздоблены фотаздымкамі. На трэцяй частцы сайта — свайго роду статыстычная інфармацыя. Гэта — звесткі аб надвор'і, найбольш папулярных, каментаваных і чытаных навінах. Найбольшую цікавасць можа выклікаць апытанне, якое сведчыць аб далейшых дзеяннях па выкараненні ў Беларусі беларускай мовы. Так, уладальнікі сайта цікавяцца ў карыстальнікаў, як тыя ставяцца да таго, што дырэктарка барысаўскага Дома гандлю змяніла шыльду крамы з беларускамоўнай на рускамоўную. Больш за 60% апытаных выказалі сваё негатыўнае стаўленне да такога кроку гандлярскай начальніцы. Але гэта, зразумела, што далёка не 100%, і акрамя таго амаль 5% шчыра заяўляюць на беларускамоўным сайце, што дырэктарка добра зрабіла, бо ім не падабаецца беларуская мова. Мяркуецца, што калі б сайт быў рускамоўным ці пісаўся па-руску і па-беларуску, то колькасць апошніх была б значна большай, што вельмі і вельмі сумна.

Сярод іншых цікавых раздзелаў сайта можна вызначыць раздзел „Пра Барысаў і раён". Ён утрымлівае шмат старонак, якія тычацца гісторыі, геаграфіі, адукацыі, звестак аб насельніцтве Барысаўскага краю. Ёсць там таксама фотагалерэя старадаўніх барысаўскіх вуліц і будынкаў, кірмашоў, што праводзіліся ў горадзе.

Цэлы раздзел прысвяціў стваральнікі сайта даведачнай інфармацыі. Там можна не толькі даведацца пра расклад транспарту ў Барысаве, тэлефонах першай неабходнасці, гасцініцах і санаторыях, але і знайці інфармацыю аб вакансіях, якая, праўда, не абнаўлялася ад кастрычніка.

У падрубрыцы „Статыстыка і іншая інфармацыя" можна азнаёміцца з такімі „экзатычнымі" звесткамі, як каэфіцыенты якасці асяроддзя Барысава і раёна ці сярэднямесячны заробак за 2010-2011 гады.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Вільня і беларускія выдавецтвы

# 105 гадоў з часу стварэння ў Вільні першага беларускага выдавецтва

28 снежня 1908 г. у Вільні было створана першае беларускае кнігавыдавецтва „Наша хата". Яго заснавальнікамі былі В. Бонч-Асмалоўскі, Б. Даніловіч, Я. Манькоўскі, А. Уласаў, У. Цэтэрман. Асноўным ідэйным натхняльнікам быў Барыс Даніловіч. Суполка мела на мэце выданне кніг пра Беларусь на беларускай і іншых мовах. У 1909-1911 гг. выдавецтва выпусціла творы мастацкай літаратуры: ананімную беларускую паэму „Тарас на Парнасе", „Дзед Завала" Ядвігіна Ш., „Дзядзька голад" С. Віткевіча, „Дым" М. Канапніцкай, „Архіп і Лявонка" М. Горкага, падручнік „Другое чытанне для дзяцей беларусаў" Я. Коласа, а таксама навукова-папулярныя кнігі.

У 1911 г. „Наша хата" спыніла сваю дзейнасць у сувязі з эканамічнымі цяжкасцямі. Але не справа не прапала. У 1913 г. паўстала новая структура — у ліпені пачало працу Беларускае выдавецкае таварыства (БВТ). Яго стварылі Барыс Даніловіч, Іван Луцкевіч і іншыя дзеячы. БВТ праіснавала ажно да 1930 г. з невялікім перапынкам сваёй працы ў неспрыяльны час Першай сусветнай вайны. Гэтая суполка зрабіла вельмі важкі ўнёсак у папулярызацыю і развіццё айчыннай літаратуры. Месцам заснавання БВТ быў дом у Вільні па вуліцы Каштанавай, 5. Антон Луцкевіч падае нават нумар кватэры — 4. Ёсць звесткі, што пры выдавецтве некаторы час жыў Янка Купала. Выдавецтва мела таксама сваю кнігарню, якая размяшчалася па вуліцы Завальнай (цяперашняя Pylimo), у доме № 7. Пазней гэтая кнігарня была перанесена на вуліцу Вастрабрамскую, 1 — будынак на рагу вуліцы Гетманскай (Etmonu). Вельмі важна, што ўсе гэтыя дамы захаваліся да нашага часу і можна іх убачыць.

Пасля змушанага ваеннага перапынку таварыства ўзнавіла сваю працу ў 1919 г. Займалася яно ў гэты час пераважна выдаваннем падручнікаў для беларускіх школ, якія ўклалі Леаніла Гарэцкая, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, Максім Гарэцкі, Ігнат Дварчанін ды іншыя. Працягвалася таксама традыцыя выдавання календароў-кніжак, якія выходзілі штогод ажно да 1929 г. Шмат выдавалася таксама мастацкай літаратуры. Кіравалі БВТ вядомыя беларускія грамадскія і культурніцкія дзеячы таго часу.

Яшчэ адно вядомае выдавецтва ў нашай старадаўняй сталіцы — гэта Віленскае выдавецтва Барыса Клецкіна. Ад пачатку свайго заснавання яно выдавала пераважна габрэйскую літаратуру. Беларускія кніжкі яно пачало выдаваць з 1921 г. У гэтай друкарні было выпушчана больш 20 беларускіх кніжак, у тым ліку такія вядомыя як „Гісторыя беларускай літаратуры" і „Хрэстаматыя беларускай літаратуры" Гарэцкага, „Геаграфія Беларусі" Смоліча, „Бярозка" Ядвігіна Ш., „Шляхам жыцця" Купалы. Ужо пазней, пасля 1923 г. тут былі выдадзены „Пад сінім небам" Наталлі Арсенневай, „Вянок" Максіма Багдановіча і іншыя зборнікі.

Выдавецтва Б. Клецкіна размяшчалася па вуліцы Малой Стэфанскай (цяпер гэта вуліца Raugyklos), дом № 23. Гэты дом таксама захаваўся. Вільня яшчэ з часу Скарыны захоўвае старыя адрасы беларускага кнігадрукавання.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Горкая праўда аб пастулатах

Пра тое, што нашы беларускія дзячы, як кажуць, варацца ў сваім саку, сведчыць іх відавочнае нездаровае саперніцтва, нападкі адзін на аднаго, неахвота супрацоўнічаць між сабой. Пацікавіўся я лёсам трынаццаці пастулатаў, прынятых XVI З'ездам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку ў 2009 годзе. Мяне асабліва цікавіла выкананне пастулатаў, датычных музейнай справы. Напрыклад, у пастулаце № 7 было запісана: „Наладзіць супрацоўніцтва з Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы з мэтай апрацавання і рэалізацыі экспазіцыі, якая адлюстроўвала б гісторыю БГКТ у галіне культуры, авсеты і выдавецкай дзейнасці". А пастулат № 12 прапанаваў: „Выступіць у адрас Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы з ініцыятывай: — размясціць на сцяне будынка дошку з інфармацыяй аб тым, што Музей пабудаваны дзякуючы Рэспубліцы Беларусь, Польшчы і беларусам усяго свету; — прысвоіць музею імя Кастуся Майсені; — размясціць на франтоне музея беларускі нацыянальны арнамент".

Звярнуўся я да дырэктара музея Тамаша Ціханюка з пытаннем ці вядомы яму пастулаты чатырохгадовай даўнасці. Узяў я з сабою „Беларускі каляндар" на 2010 год, у якім надрукаваны з'ездаўскія пастановы. Дырэктар Ціханюк здзівіўся і адказаў, што з таго часу, калі Кастусь Майсеня адышоў з пасады дырэктара, БГКТ беларускіх календароў у музейную бібліятэку не дасылае. Апошні каляндар у бібліятэку музея паступіў у 2005 годзе, з горыччу адказаў мой субяседнік.

— Каляндар, які вы паказваеце, бачу першы раз, так як і пастулаты. Пісьмовы зварот да нас з гэтымі пастулатамі не паступіў чамусьці, — сказаў дырэктар музея. — Відаць, уляды БГКТ пра пастановы XVI З'езда самі забыліся.

Як бачым, з'ездаўскія пастулаты некалькі гадоў ляжалі сабе спакойна ў папцы, а кіруючыя дзеячы нават пальцам аб палец не ўдарылі ў справе іх ажыццяўлення. На XVII З'ездзе была справаздача з дзейнасці Прэзідыума ГП БГКТ. Цікава ці дэлегаты пацікавіліся, што з пастановамі, прынятымі на папярэднім з'ездзе, што з пастулатамі. Пэўна перакачавалі яны ў новую праграму.

**Віктар БУРА**

PS. Як я даведаўся, беларускія календары, якія штогод выдае ГП БГКТ, у гмінныя бібліятэкі не паступаюць. Няма іх у бібліятэцы ў Гайнаўцы амаль ад дзесяці гадоў. На маю думку, павінны яны быць даступнымі ў бібліятэках, бо такое ёсць запатрабаванне.

В. Б.



## Закалоў вепручка і ўзнікла праблема

Набліжаюцца Каляды. Спрадвечнай традыцыяй у нашых сёлах было рыхтаванне мясных вырабаў пад свята вясковым спосабам. А бывала гэта так.

Гаспадар напрадвесні (або восенню) купляў парку парасят і гадаваў на ўласныя патрэбы. Адну свінку калоў пад Вялікдзень, другую пад Раждаство Хрыстова. Амаль у кожнай вёсцы знаходзіліся спецыялісты па гэтым рамястве. Гаспадар за паслугу плаціў мясніку грашыма або даваў свежыну. Усё здавалася быць нармальным. Але сёлета абароны праваў жывёлы паднялі сумятню, што жывёла ў час традыцыйнага забою церпіць і што негуманна гэтак рабіць у цывілізаваным свеце. Быў прыняты закон аб забароне традыцыйнага забою. Што тады рабіць селяніну?..

Прывяду прыклад. Жыхар адной вёскі ў Чаромхаўскай гміне закалоў вепручка традыцыйным спосабам. Прыкмеціў гэта нявеплівы сусед. Падаў заяву ў паліцыю аб злачынстве. Функцыянеры паінфармавалі ветэрынара. Гэты ў сваю чаргу перадаў паведамленне павятоваму ветэрынару. Стварылі камісію, гаспадара абвінавацілі ў парушэнні закону аб традыцыйным забоі.

— Дык хто меў заняцца забоем? — пытаў усхваляваны гаспадар камісію. — Самая блізкая бойня знаходзіцца 30 кіламетраў адсюль, у Ляўках. Дык як туды дабрацца селяніну, які не карыстаецца ўласным транспартам? Якія кошты панясе чалавек?..

Але на гэта селянін не атрымаў адказу. Пачуў адно ціхі намёк камісіі:

— Мы выканалі абавязак. Была заява, дык мы прыехалі...

Вось дараждэнькія, як справы маюцца. Добрасумленнаму чалавеку не дазваляюць спакойна жыць. Міжвольна становіцца ён злачынцам, хоць ніякай шкоды нікому не зрабіў. Ці гэта гуманна?..

(ус)

## Прыгода з „Нівай"

Паколькі ў Чаромсе ліквідавалі кіёск „Руху" на пероне, дык мясцовыя крамы не сталі займацца продажам беларускага тыднёвіка. Прадпрымальнікі аргументавалі, што няма пакупнікоў. Я рашыўся дапамагчы ў распаўсюджванні часопіса, асабліва святочнага нумара. Як штогод, так і сёлета сабраўся я ў Беласток за газетай з календаром. Было гэта 18 снежня. Дагэтуль друкарня пастаўляла тыраж у рэдакцыю ў сераду пад канец рабочага дня. Сёлета ўзніклі складанасці. Друкарня зрабіла пастаўку а гадзіне пятай пасля абеду. Я вымушаны быў адрачыся ад адзінага цягніка (хоць выкупіў білет на паваротны праезд), бо не хацеў дамоў вяртацца з пустымі рукамі. Сваім пастаянным кліентам абяцаў я, што „Ніву" пастаўлю ў чацвер зранку. А ў мяне слова даражэй грошай. Як сказаў, так мусіла быць!

Рэдакцыю пакідаў я пятнаццаць хвілін пасля пятай.

— Цяжкавата будзе вам дабірацца, пан Валодзя, — гаварыла кіраўнік канцылярыі, якая памагла пагрузіць сотню экземпляраў у пакеты... — На аўтобусны вакзал можна дабрацца аўтобусамі №№ 20 і 100, — параіла на развітанні.

Калі я стаў перад акенцам білетнай касы і папрасіў білет на першы аўтобус у Бельск-Падляшскі, касірка заявіла: „Вам прыйдзецца перайсці на вакзал прыватных фірм „Ваяджар" або „Пагода-экспрэс". Бельск адлучыўся ад нас". Затым дабавіла: „ПКС ад'язджае ў Бельск адно ў 18:30". Пачаў я распытваць аб стаянку прыватных транспартных фірм. Пяць разоў прататпаў укругавую, ды так і не знайшоў патрэбнага сродка транспарту. Набліжалася 18:10. Да ад'езду аўтобуса ПКС заставалася дваццаць мінут, а я не прыкмячаў ніводнага аўтобуса. Адзін мужык рэкамендаваў падацца на стаянку № 17, але жывой душы там не было. На канец знайшоўся кампаньён.

— Адсюль ад'язджае аўтобус у Бельск-Падляшскі, — адказаў сімпатычны юнак. — Але апошнім разам не прыехаў. Адмянілі... Сення пэўна будзе...

Пад'ехаў. Адправіўся ў Бельск з пяціхвілінным спазненнем. Праз гадзіну былі на месцы. Чакаў мяне сардэчны прыяцель Сцяпан Каляда, які завёз мяне дамоў пасля шматлікіх прыгод напатканых у падарожжы. А ранкам наступнага дня падаўся я ў народ з „Нівай". За першым падыходам, у чацвер, распаўсюдзіў у коле знаёмых амаль сорак экземпляраў. Лічу, што да Новага года спраўлюся канчаткова з сотняй. Усё ж такі трэба ўспамагаць родную „Ніву"!..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Адгаданка

|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  |  |  |  |  |  |  |
|  | 1 | 2 |  | 3 |  |  | 4 |  |
|  |  |  |  | 5 |  |  |  |  |
|  |  |  |  |  |  | 6 |  |  |
| 7 |  |  |  |  |  |  |  | 8 |

1. прозвішча беларускага першадрукара, 2. вынік творчай працы, 3. другі дзень тыдня, 4. раённы цэнтр на Гродзеншчыне на рэчцы Івенцы, 5. Рагвалодава дачка, 6. прозвішча прэм'ер-міністра Беларусі 1990-94 гадоў, 7. самаразгружальны грузавік, 8. лекар.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — арабская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 48 нумара

Чын, халява, Балі, закуска, жорны, ікс, мат, муць, жмут, маналіт, „Іж", Вялікабрытанія, акно, фізіка.

Рашэнне: **За кожным вялікім мужам стаіць вялікая жонка**.

## 29.12 — 04.01

**(22.03. — 20.04.)** Не ўсё пойдзе па тваёй думцы. Не траць нерваў на спрэчкі і дыскусіі. Адчуванне трывогі і вялікіх змен, на якія можаш не мець ахвоты. Пільнуй свайго здароўя. 28-31.12. можаш быць аслаблены і схільны да дзеянняў, якія табе зашкодзяць. 30 і 31 снежня — добры час для духоўных пошукаў, прадказанняў і варожб, а таксама для развіцця сваёй унутранай сілы і інтуіцыі.

**(21.04. — 21.05.)** Чым бы ты не займаўся на гэтым тыдні, усё пойдзе к дабру. Любая рызыка будзе мець станоўчы вынік і забяспечыць табе спрыяльную будучыню. Праўда, цяпер вакол цябе занадта шмат цікаўных вушэй, таму старайся гаварыць цішэй. У панядзелак старайся абдумваць свае словы, каб не пакрыўдзіць блізкага чалавека. Не бяры цяпер водпуску!

**(22.05. — 22.06.)** Трэба будзе зверыфікаваць планы і думкі, штосьці паправіць. Каб увесь наступны год спадарожнічала ўдача, каб у вашай хаце пасяліліся радасць і шчасце, наніжы на зялёную нітку кавалачак чырвонага карала, бірузы і бурштын і павесь гэты кудмень у сваім доме. Гэта дасць яму дабраславенне ўсіх прыродных стыхій. У аўторак неабходна засяродзіцца на будучых мэтах і шляхах іх дасягнення.

**(23.06. — 23.07.)** Твае скрытыя здольнасці дазволяць не страціць таго, што ўжо маеш, і здабыць тое, што абавязкова павінна быць тваім. Выдатны час для змены ці дапаўнення гардэроба. Але не купляй танных рэчаў. У бліжэйшы час магчымы раман на працы: старая дружба з супрацоўнікам або супрацоўніцай можа перарасці ў каханне.

**(24.07. — 23.08.)** Пагражаюць табе небяспечныя сітуацыі. Пільнуйся! Лёгка будзеш спрачацца і выкарыстоўваць сваю перавагу; можаш страціць сяброў! Побач з вамі могуць з'явіцца нечаканыя грошы: напрыклад, маеш усе шанцы на выйгрыш у азартнай гульні. Але не будзь занадта прагным, не стаў усіх грошай на рулетку!

**(24.08. — 23.09.)** Можаш спазнаць тайну, з-за якой не будзеш спаць. Набудзеш каштоўную інфармацыю, калі будзеш уважліва слухаць і назіраць. Праявi дыпламатычнасць, каб дамагчыся ажыццяўлення сваіх даўніх жаданняў і планаў. Беражы свае адносіны з сябрамі: магчыма, яны хутка падвергнуцца праверцы на трываласць. Настойліва беражы сваё здароўе, асабліва ад прастуд.

**(24.09. — 23.10.)** Нялёгкі час, цяжка будзе зрабіць тое па-свойму. Вельмі дбай аб сваё здароўе! Панядзелак багаты любоўнымі перажываннямі, расчараваннямі і інтрыгамі. У аўторак не варта прымаць ніякіх важных рашэнняў, лепш іх адкладзі. У сераду аддай больш увагі дзецям. У чацвер ты ўспомніш пра грошы, ці яны ўспомняць пра цябе.

**(24.10. — 22.11.)** 28-31.12. вельмі небяспечныя сітуацыі. Пільнуйся за рулём машыны і асцерагайся спрэчак! Затое можаш у цішыні добра, засяроджана папрацаваць. Вырашы сваю галоўную праблему або скончы асноўную справу. Панядзелак: ёсць верагоднасць ажыццяўлення адносін з дзелавымі партнёрамі з-за сумесных фінансаў. У аўторак чакаюцца немалыя выдаткі. Пятніца — спрыяльны час для творчых задум.

**(23.11. — 22.12.)** Лепш не выбірайся ў падарожжы. Не паддайся абяцанням залатых гор. Варта выдаткаваць трохі часу на тое, каб вырабіць ураджанне ў сваім асяроддзі: у далейшым гэта акупіцца. Наведвай курсы і семінары. У гэтыя дні зможаш закласці добрую аснову для будучых фінансавых поспехаў.

**(23.12. — 20.01.)** Усе твае сваякі, а таксама цяперашнія і даўнейшыя сябры і знаёмыя вырашаць нагадаць табе аб сабе; тэлефонныя званкі, нечаканыя візіты гасцей і выпадковыя сустрэчы. Старайся добра правесці час. Калі іжывы гонар перашкаджае табе спыніць сварку з каханым чалавекам, зрабі першы крок да прымірэння. 30 і 31 снежня — магчымая паломка бытавых электрапрыбораў. Будзь асцярожны, замяняючы перагарэлую лямпачку!

**(21.01. — 19.02.)** 27-31.12.: неспакой і вялікія змены, якія хутчэй цябе не ўцешаць. Пачні ўвасабляць у жыццё свае планы. На гэтым тыдні будзеш камандаваць іншымі людзьмі, нават калі афіцыйна не займаеш кіруючых пастоў, будуць прыслухоўвацца тваім меркаванням, твае жаданні і просьбы будуць выкананы.

**(20.02. — 21.03.)** Добры тыдзень, напоўнены паездкамі, моцнымі эмоцыямі і бурнымі пачуццямі. Чакае ўзнагарода або расплата за справы і ўчынкі. У тваім асяроддзі могуць адбыцца змены. Калі ў цябе маюцца якія-небудзь моцныя перажыванні, трывогі, праблемы і няўдачы, прамоў усе свае панурыя думкі голасна ў рыльца пустой бутэлькі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

**Калі на вёсцы нехта некага называе гультаём, то раю не толькі не даўяраць гэтым словам, але нават і не слухаць лгуна, ці, як паказвае практыка, лгуху. На вёсцы няма гультаёў. Гультай у вёсцы проста не зможа выжыць, як рыба ў полі. Іх, гультаёў, там не можа быць у прынцыпе, як не можа быць кола, якое не здольнае каціцца.**

# Навагодняя ёлка


cohesive-pieces.blogspot.com

А вось лгуны ёсць. Таму, калі вы чуеце, што ў дагледжанай вясковай хаце аточанай хлявом, паветкамі, лазняй і сабачай будай нехта некага назваў гультаём, то можаце быць упэўненыя, што гэта зрабіла лгуха-жонка супраць свайго працавітага мужа, віна якога насамрэч палягае не на тым, што ён не хоча нічога рабіць, а толькі на тым, што той злёгку прыхіліўся стомленым ад жыцця тварам да мяккай падушкі з прычыны лёгкага недапіцця цяжкага напою.

— Падымайся, гультаіна, — раўла Верка Янушка на бацьку сваіх дзяцей, які толькі-толькі паспеў прыплюшчыць вочы, каб хвілінačку адпачыць. Не болей, хвілінačку. Ён нават портак не здымаў для эканоміі часу. Нават фуфайку не зняў. Расшпіліў толькі і ўсё. І прылёг. Ды вось жанчыне гэта чамусьці не спадабалася.

— Зусім асвінеў, — крычала яна. — Новы год ужо на парозе, а ў хаце нават ёлкі няма. Дзеткі ўсё пытаюцца, калі бацька ёлку прынясе. А мне што ім сказаць? Што бацька — алкаголік! Дык яны і так гэта ведаюць. Але ж і ў іншых дзяцей ёсць бацькі алкаголікі, ды ёлкі ўжо даўно паставілі. Яшчэ перад каталіцкімі святамі. А ты і да нашых, праваслаўных, не здолееш. Гультаіна ты такі. І піяка. П'еш да імпатэнцыі. А я ў цябе ўжо як хатняя каўбаса. Толькі пальцам піханая.

Генка, так звалі соннага і падвыпіўшага мужа, добра ведаў, што жонка скажа далей. Гэта як прачытаць кнігу, а пасля перачытаць яе яшчэ некалькі разоў. Усё наперад ведаеш. Але ж чытаць цікава, калі кніга цікавая. У дадзеным выпадку ўсё было наадварот. Творчасць жонкі Генку аніколі не падабалася, нават з першай спробы яе прэзентавання. Ну а гэтыя словы пра ёлку ён чуў ужо дванаццаць раз, пачынаючы ад першага сумеснa сустрэтага Новага года.

— Прывалаку я табе ёлку, — нездаволена буркнуў ён. — Дзе мне час было ўзяць, — пачаў крыху апраўдвацца. — Зранку кручуся, як грэшнік на пякельнай патэльні, ні дыхнуць, ні выдыхнуць. А яна тут паніку развяла. Нікуды твая ёлка не дзенецца. Цэлы лес тых ёлак.

— Пакуль ты надумаешся, дык усе і павысякаюць, — не здавалася Верка. Было бачна, што сварыцца ёй падабаецца. Яна ад сваркі нейкую энергетыку атрымлівала. Ёсць такая парода людзей. Як усё добра, то яны ўпадаюць у дзікую дэпрэсію, вянуць на вачах, старэюць, хварэюць, пакутуюць. Ну а калі складанасці якія, тады яны ажываюць галосна і цвёрда, з упэўненасцю, якой пазайздросціць самыя перакананыя тэолагі. Гэтыя людзі наракаюць на сваю гаротную долю, галосяць у тры гарлякі, тупаюць нагамі, махаюць рукамі, бывае плачуць, або скардзяцца на сваё жыццё і блізкіх людзей суседзям. А пасля скардзяцца блізкім людзям на суседзяў. Ім здароўе ад гэтага прыбаўляецца. За кошт іншых, канешне, бо калі недзе прыбаўляецца, то ў іншым месцы прападае. Такія законы фізікі. Тут не паспрачаешся.

— Ужо іду, — напалохана перабіў яе Генка, убачыўшы, што яго жонка толькі разаграваецца перад сапраўднай навальніцай прэтэнзій. І што калі іх дaслухаць да канца, то можна сапраўды Новы год прапусціць. І не толькі гэты, але і наступны.

Генка яшчэ зранку агледзеўся па гаспадарцы. На навагоднія святы ўсе грошы аддаў жонцы. Але нечакана ў фуфайцы знайшоў няўлічаныя трыццаць тысяч рублёў, якія былі затоеныя ад каханай яшчэ да падаражання гарэлкі. Тады гэта была дастатковая для шчасця сума. Зараз гэта складала ўсяго дзве трэція ад шчасця.

Брудна вылаяўшыся пра падняцце коштаў на тавары штодзённага попыту і віноўніка такога стану рэчаў беларускага прэзідэнта, Генка пайшоў шукаць нехапаючай часткі. І тут сустрэў брата па няшчасці, Юрку, у якога была дакладна такая ж праблема. Праз нейкі час яны ўжо весела размаўлялі пра тое, чаму інтэлект абмінуў іх жонак. Прычым не проста прайшоў бокам, а абышоў так далёка, што ні яны яго не заўважылі, ні ён іх не ўбачыў і не здагадваецца пра іх існаванне. Бо чаркуючы, мужыкі шмат спраў вырашаюць. Вось і зараз дамовіліся разам схадзіць па ёлку.

Таму, пасля жончынай істэрыкі, Генка ўзяў сякеру, захапіў Юрку з яшчэ адной сякерай, і пасунуўся ў бок Налібоцкай пушчы. Іх жонкі пацягнуліся за імі аж да канца вёскі, каб мужыкі чаго добрага не пераблыталі дарогі і не звярнулі да крамы. І праводзілі іх ажно да лесу. І толькі як мужчыны зніклі ў заснежаным моры дрэў, жанчыны патупалі назад, голасна спрачаючыся, чый мужык горшы, чый большы піяка, лайдак. І ўвогуле, чый лёс горшы. Кожная сцвярджала, што ейны.

А хлопцы, абтрасаючы абухамі снег з дрэўцаў, пачалі паглыбляцца ў пушчу, шукаючы лясных прыгажунь.

І вось знайшлі. Яны стаялі побач. У снезе. Прыгожыя, стромкія, ладныя...

— Эх, шкада, што я жанаты, — прастагнаў Юрка і дастаў сякеру. — Жаніўся б на адной з іх. І прыгожыя, і маўчаць. Цуд а не жонкі былі б.

Але як толькі былі ссечаны прадметы іх захаплення, у мужчын пераняло дух. Прама за ялінкамі стаяў лясны самагонны апарат. Побач, як жаўнеры перад псіхічнай атакай, роўненька выстраіўшыся ў маўклівыя шыхты, стаялі бітоны з бражкай.

— Генка, яна ўжо выспела, — выгукнуў Юрка, пакаштаваўшы прадукт. — Хутчэй разводзь агонь. Будзем гнаць. Шкада, што сухіх дроў няма. Але і гэтыя распалім.

Генку нічога гаварыць не трэба было. Ён ужо пасек прыгожыя навагоднія ёлачкі на дровы, і дастаў запалкі. А каб хутчэй распаліць сырое, напачатку падпаліў шапку.

— Я даўно ўжо хацеў купіць новую, — патлумачыў ён. — А ёлкі на выхадзе з лесу высячам іншыя. Чаго нам гэтыя праз усю пушчу валачы?

— Яно то так. Толькі там сухія, — засумняваўся калега. — Калгас нейкую атруту выліў, яны і павысыхалі. Акурат яны на дровы былі б добрыя.

— Нічога. Нешта падбярэм, — запэўніў сябра.

Праз нейкі час над Налібоцкай пушчай паплыла песня.

„Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок" — рэзаў як бензапілой Юрка такім паскудным голасам, якога не ў кожнай бензапілы знойдзеш. Хіба што яшчэ ў тых, старых, савецкіх, што „Дружбай" называліся.

„Цячэ, цячэ" — пагаджаўся Генка, закусваючы снегам.

Было ўжо цёмна, калі Верка з Юрчынай жонкай сталі арганізоўваць выратавальную экспедыцыю па пошуку іх кепскіх мужоў. Жанчыны апрануліся і сталі выбірацца ў пушчу. Але нечакана як ашалелыя забрахалі вясковыя сабакі, зараўла ў хлявах іншая жывёла. Нават куры не змаўкалі. Толькі мудрыя каты ад страху цішком пахаваліся па даступных толькі ім сховах. Гэта да вёскі прыбліжалася песня „Цячэ вада ў ярок" у выкананні найпаскуднейшага голасу заходняй часткі Беларусі. Можа і ўсходняй таксама, але Генка, які быў вымушаны не толькі слухаць, але і падпяваць, выканаўцаў з усходу не чуў, бо з вёскі сваёй выязджаў рэдка, і то не далёка. Найдалей у Нямеччыну выязджаў, на танку, яшчэ як служыў у савецкім войску. Але гэта не ўсход.

Нарэшце мужчыны, спяваючы і хістаючыся, ды па-сяброўску прытрымліваючы адзін другога перакрочылі мяжу вёскі. За сабой яны цягнулі па зямлі кожны па ёлцы.

— Прымай дзярэўня трактар, — у адзін голас выгукнулі яны ды кінулі ёлкі пад ногі аслупянелым бабам. А пасля, з пачуццём выкананай справы, пачалі распаўзацца па хатах.

— О, Божа, — у адзін голас, нібыта перадразніваючы мужыкоў, зараўлі жанчыны. — Што вы прывалаклі?

Перад іх нагамі ляжала нешта падобнае да гіганцкіх пацуковых хвастоў. Сухія карчы, без аніводнай іголачкі. Бо тыя іголачкі, таксама сухія, хіба засталіся па ўсім шляху перацягвання навагодняга ўпрыгожвання. Як п'яныя мужыкі ў поцемках не стараліся знайсці штосьць адпаведнае, усё адно высеклі тыя пасохшыя ад калгаснай атруты дрэўцы.

— Вам ніколі не дагодзіш. Хоць разарвіся, — задэкларавалі мужчыны і патупалі прэч.

А жанчыны хапілі сякеры ды кінуліся ў пушчу.

Верка паспела прывалачы ёлку да поўначы. Нават паспела ўпрыгожыць, накрыць стол, пасадзіць дзяцей і падсунуць да стала канапу з п'яным мужам, які спаў так салодка, як пшаніцу прадаўшы. Ці калі больш дакладна сказаць, то як ёлку прынёсшы. Падсунула, каб уся сям'я была ў зборы.

Сустрэўшы шампанскім Новы год, павіншавала дзяцей, уклала іх у ложкі ды прылягла сама. Але не паспела заснуць.

— Ну што ў мяне за дурная баба, — пачула яна незадаволены голас мужа.

Заляцеўшы ў залу яна ўбачыла свайго абаронцу за сталом. Той дапіваў шампанскае. Убачыўшы Верку, паказаў рукой на навагоднюю прыгажуню.

— Ну і чым табе ёлка не падабаецца? — спытаўся той. — Ёлка як ёлка. Прыгожая. Я за ёй усю пушчу аблазіў, пакуль знайшоў.

— Прыгожая, прыгожая, — пагадзілася жанчына. Села ля мужа, наліла яму і сабе, абняла.

Яны выпілі. Яна крыху, ён да канца і нагбом. Пацалаваліся. Павіншавалі адзін другога з Новым годам і заспявалі:

— Цячэ вада ў ярок...

Песня загучала міла, лагодна, прыгожа. Не так як у Юркі. А збунтаваныя Юрчыным голасам сабакі і іншыя жывёлы ад новага выканання песні супакоіліся, замаўчалі, палагаднелі і нават заслухаліся. А каты дык павылазілі са сваіх сховаў і сталі цярціся, якія аб котак, а якія аб ногі гаспадароў.

А песня плыла над вёскай, над полем і даляцела ажно да Налібоцкай пушчы, дзе яшчэ гарэў незатушаны хлопцамі агеньчык. Гарэў і падаграваў лясны і незаконны самагонны апарат, з якога ў белы навагодні снег светлым і чыстым як дзіцячыя мары струменьчыкам сцякала самагоначка. У пушчы, у цэнтры Еўропы і ўсяго свету, на беларускай зямельцы, дзе жывуць працавітыя, добрыя і вясёлыя мужчыны, якіх кахаюць і ўсё даруюць ім іх чуйныя жонкі.

І Верка ўсё даравала. Асабліва ў Навагоднюю ноч, седзячы пры прыгожай, стромкай, чаравальнай навагодняй ялінцы, шукаючы якую яе муж усю пушчу аблазіў.

**Віктар САЗОНАЎ**

ISSN 0546-1960